НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 28 (769) 25 ліпеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Ад ... 991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сузорзічы». Выходзіць штотыднёва



## Беларускі спадарожнік на арбіце

Але якасць яго здымкаў у 6 разоў горшая за бясплатныя карты Google. Старонка 5.



## Топ-7 прыватных гатэляў Беларусі

Ад «Мірскага замка» да «Эрмітажа». Якія, і колькі каштуе спыніцца. Старонка 6.

# Алімпіяда XXX

У Лондане пачынаюцца Гульні. Беларускія **надзеі і расклад**. **Старонка 9.**




REUTERS

## Башарымаву прад'явілі абвінавачанне, Сурапіну — пакуль не

### Чакалі мішак з фотаапаратам?

23 ліпеня скончыўся 10-дзённы тэрмін затрымання студэнта журналістыкі БДУ Антона Сурапіна, аднак на волю ён не выйшаў. Абвінавачанне яму пакуль не прад'яўленае. З удзелам затрыманага журналіста праводзіліся працэсуальныя дзеянні. Яго пакінулі ў турме для далейшага разгляду. Гэта ўся інфармацыя, якую змагла паведаміць адвакатка Антона Сурапіна пасля наведвання КДБ.

Затрыманы студэнт перадаў прывітанне ўсім, хто яго падтрымлівае. Антону Сурапіну вядома аб тым рэзанансе, які выклікаў яго арышт.

Сурапіна спецслужбісты затрымалі 13 ліпеня. Ён падазраецца ў «дапамозе незаконнаму перасячэнню мяжы Рэспублікі Беларусь».

Па гэтай жа справе раней, 6 ліпеня, спецслужбы затрымалі сталічнага рыэлтара Сяргея Башарымава. Як паведаміла ягоная дзяўчына Ірына Лагойка, 16 ліпеня яму прад'явілі абвінавачванне па ч. 3 арт. 371 КК «Незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь». Пацвярджэння інфармацыі пра абвінавачанне Башарымаву з афіцыйных крыніц пакуль няма.

Дарэчы, сама дзяўчына суткі правяла ў турме КДБ.

**Працяг на старонцы 3.**

### Палітыка

## Цырк ад Мядзведзева ў Інстаграме

Расія хоча «Беларуськалій».
**Старонка 4.**



### Разгільдзяйства

## Як у Мінску кладуць плітку

Чаму яна правальваецца пад зямлю?
**Старонка 5.**



### Крымінал

## На «Дажынках» кралі мільярдамі

Сталі вядомыя вынікі маштабнай праверкі.
**Старонка 10.**



### Гісторыя

## Налібоцкія келіхі для Еўропы

Найлепшы беларускі бізнэс-праект XVIII стагоддзя.
**Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Лукашэнка — студэнтам: два гады — у аўдыторыі, два гады — на ферме

Прапануецца **павялічыць працягласць практыкі** студэнтаў.

Гэтая тэма абмяркоўвалася 24 ліпеня падчас даклада міністра адукацыі Сяргея Маскевіча.

«У адваротным выпадку выходзіць так, што студэнт да пятага курса сядзіць у аўдыторыі, яму пра нешта расказваюць выкладчыкі. А многія выкладчыкі самі плятуцца ў хвасце падзей. Пра што яны могуць расказаць? Так склалася жыццё, што ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы канкрэтная вытворчасць пайшла далёка наперад. А выкладчыкі, на жаль, адсталі. Таму трэба перанесці цэнтр цяжару на вытворчасць, на палі, на фермы, на заводы, на фабрыкі і там вучыць будучых спецыялістаў», — цытуе Лукашэнку яго прэс-служба.

Лукашэнка лічыць, што студэнты «два гады, да прыкладу, павінны грызці навуку ў сценах акадэмій, універсітэтаў, інстытутаў». «А астатнія два гады, калі мы скарачаем з пяці да чатырох гадоў тэрмін навучання па некаторых спецыяльнасцях, яны павінны быць на пэўнай вытворчасці», — заявіў Лукашэнка.

«І яшчэ важна: калі чалавек патрапіў не туды, дык няхай ён яшчэ ў студэнцкія гады зразумее і шукае сваю дарогу ў жыцці», — дадаў кіраўнік дзяржавы.

«І выкладчык будзе вучыцца, як апрацоўваць нейкія сельскагаспадарчыя культуры і як ствараць нафтахімічную, хімічную прадукцыю, і такім чынам падцягнецца да ўзроўню вытворчасці», — упэўнены кіраўнік дзяржавы.

Лукашэнка лічыць, што ў ВНУ ёсць магчымасці для аптымізацыі навучальнага працэсу. «Некаторыя ж прадметы ў нас у многіх ВНУ толькі дзеля таго, каб іх прайсці. Яны тысячу гадоў не патрэбныя, іх забудуцца студэнты тут жа пасля заканчэння курса. Дык, можа, дзесьці іх наогул прыбраць, скараціць, дзесьці зрабіць факультатывы, як у школе, каб студэнт уяўленне меў?» — задаўся пытаннем кіраўнік дзяржавы.

Але ён тут жа засцярог: «Тут небяспечна і звузіцца: будзе лекар, які не ведае гісторыі. Што гэта такое? Ён жа яшчэ і грамадзянінам павінен быць», — адзначыў Лукашэнка.

Па словах міністра, гэтая праца ўжо вядзецца. Аптымізацыя тэрмінаў навучання закране каля 60% спецыяльнасцяў, у асноўным, педагагічнага, эканамічнага, тэхнічнага профілю.

**БелаПАН**

# У Навагрудку таксама будзе беларускамоўны клас

**Набор** праводзіцца ў школе №7.

У Навагрудку ў школе №7 (вул. Драздовіча, 32) падаць дакументы можна да 28 жніўня.

Тэл. (01597) 3-08-24.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.

E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9** (Сядых, 10): паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.

Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10): паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60** (Лібкнехта, 82) — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ №68** (зав. Ахоцкі, 17): набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

**СШ №11** (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

**СШ № 72** (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

**СШ №108** (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by; т.: (017) 245-20-41.

**СШ №131** (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

СШ №180 (Радужная, д. 8, корп. 3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

**СШ №209** (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

**СШ №110** (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

### Барысаў

ДУА «Беларускамоўная гімназія №2» (вул. Нармандыя-Нёман, 22)

Т.: (177) 72-27-57

### Брэст

Пачатковая школа №34 (Маскоўская, 386/1)

Т.: (0162) 42-02-72.

### Гомель

Гімназія №36 імя Мележа (Бр. Лізюковых, 16)

Т.: (0232) 48-10-25, 48-13-73.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)

Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)

Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)

Т.: (0163) 42-51-50.

## Сцісла

### Валютных крэдытаў для насельніцтва не будзе

Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні Нацбанка Сяргей Дубкоў. Банк хоча пазбегнуць рызыкаў, звязаных з дэвальвацыяй.

### Незалежны журналіст пад ударам

У журналіста «Еўрарадыё» Віталя Ругайна на мяжы з Літвой забралі ноўтбук. Раніцай у аўторак ён ехаў з Вільні ў Мінск.

### Калійная справа — працяг

КДБ затрымаў яшчэ аднаго падазраванага па «калійнай справе». Той хаваўся ў Расіі. Дарэчы, менавіта там праводзілася афармленне мытных дакументаў на калійныя ўгнаенні. Круцялі выпісвалі іх па зніжаных унутрыбеларускіх коштах на калгасы, а пасля гналі за мяжу па экспартных. Паводле інфармацыі КДБ, у злачынную схему былі ўключаны не менш як 15 райаграсэрвісаў і 13 фермерскіх гаспадарак. Уражвае аб'ём махінацый: не менш як 30 тысяч тон за год.

### Мужчына кінуўся пад самазвал

Трагедыя адбылася ў Мінску на вуліцы Харкаўскай, у аўторак а 9.20. Сведкі кажуць, што 36-гадовы мужчына наўмысна рынуўся пад колы. «Магчыма, гэта было самагубствам», — адзначылі ў ДАІ.

### Пастухі забілі дваіх пенсіянераў

У Аршанскім раёне пастухі шукалі выпіўку і пайшлі дадому да пенсіянераў. Адзін зайшоў у хату да 74-гадовай жанчыны, а другі чакаў яго на вуліцы. Калі пенсіянерка пачала крычаць, на дапамогу прыбег яе муж. Пастухі пырнулі мужчыну 9 разоў, а ягоную жонку — 22. Пасля яны вярнуліся да сваёй пашы, але іх вылічылі.

### НЛА ў Глыбокім

У панядзелак а 23.20 жыхары Віцебскай вобласці заўважылі некалькі неапазнаных лятаючых аб'ектаў. Відэа палёту аднаго з іх зняў адзін з жыхароў горада. Як заўжды з такімі фактамі, праверыць іх немагчыма.

**СГ**




## Рэкамендуем

Брукаваны Менск

Атмасферныя куточкі сталіцы.

Як павялічыць колькасць беларускай мовы за адзін дзень у 5 разоў

Вікіпедыя як прыярытэт нашага часу.

**Чытайце на nn.by**


## Самае чытанае за 18—24 ліпеня

# Башарымаву прад'явілі абвінавачванне, Сурапіну — пакуль не

Працяг са старонкі 1.

Арганізатар палёту медзведзіроўшчыка швед Кромвэл заявіў, што з Башарымавым кантактаваў толькі ў справе зняцця кватэры ў Мінску. Насамрэч, Башарымаў займаўся здачай у арэнду ў тым ліку адной з кватэр насупраць Адміністрацыі прэзідэнта. У той жа час Кромвэл заяўляў, што ў Мінску ў іх напагатове быў чалавек, гатовы сфатаграфаваць скіданне мядзведзікаў. Магчыма, беларускія спецслужбы мяркуюць, што гэтым чалавекам мог быць Башарымаў.

Шведы, у сваю чаргу, ручаюцца, што ажыццявілі сваю акцыю без падтрымкі беларусаў, бо не хацелі падстаўляць іх пад удар. Хто афармляў запрашэнні для шведаў, каб яны маглі вырабіць візы? Кромвэл кажа, што гэта было тое самае рыэлтарскае агенцтва Башарымава.

Абсурднасці сітуацыі дадае той момант, што беларускія ўлады дагэтуль не прызналі факту скідання мядзведзікаў. І, тым не менш, адначасова расследуецца крымінальная справа.

Сваім палётам група шведаў хацела звярнуць увагу на парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Ім гэта ўдалося. А новыя арышты ў Мінску выклікалі новую хвалю публікацый у сусветных СМІ.

Сяргею Башарымаву пагражае суровае пакаранне — ад 3 да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**Мікола Бугай**



EURORADIO

Сяргей Башарымаў.

**Сурапін даслаў ліст маці**

Пасланне, датаванае 22 ліпеня, прыйшло бацькам у Слуцк праз два дні. Антон дзякуе за атрыманую перадачу, перадае прывітанне ўсім сваякам, а таксама журналістам-фатографам, «з якімі лётае па рэпартажах». «І смайлік прымаляваны, — кажа маці журналіста. — Там шмат прозвішчаў, я ўсе не пералічу…»

**«Коммерсантъ»: Лукашэнка адцягвае ўвагу**

«Пошукамі «памочнікаў медзведзіроўшчыкаў» Лукашэнка адцягвае ўвагу ад правалу сваёй СПА», — мяркуе расійскае выданне.

# 16-гадовую Кацярыну Скурат дапытвалі, але не арыштавалі

**Родныя не хочуць** размаўляць з журналістамі.

20 ліпеня некаторыя інтэрнэт-сайты распаўсюдзілі інфармацыю, што КДБ затрымаў дзяўчыну Антона Сурапіна, 16-гадовую выпускніцу івянецкай школы Кацярыну Скурат.

У той жа дзень каля 17.00 на старонцы Кацярыны «Укантакце» з'явіўся статус: «Што за лухта? Адкуль? Я дома!». А праз гадзіну старонка была цалкам выдаленая.

Затым з'явілася інфармацыя, што КДБ не затрымліваў дзяўчыну, а толькі дапытаў яе ў прысутнасці бацькоў. Яна расплакалася падчас гутаркі, а чэкісты, папярэдзіўшы Кацярыну і ейных бацькоў, сышлі.

Паводле адной з версій, яна пазнаёмілася з Антонам Сурапіным у чэрвені, калі хлопец прыязджаў у Івянец, каб здымаць «Цукеркавы фэст». Яны пасябравалі. Менавіта Кацярына і магла даслаць Антону здымкі шведскіх мядзведзікаў.

Мабільны тэлефон Каці па-ранейшаму недаступны. А на хатнім нумары здымаюць слухаўку і адразу яе кідаюць. Па словах адной з яе сябровак: «Каця дома, з ёй усё ў парадку. І настрой, і сама. Вечарам з ёй сустрэнуся і паразмаўляем». Пра допыт КДБ сяброўцы нічога не вядома.



Былыя аднакласнікі Каці кажуць, што дзяўчына была гонарам школы — залатая медалістка, прызёр рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. Валожынская «раёнка» «Працоўная слава» пісала, што дзяўчына ўваходзіць у спіс прэтэндэнтаў на стыпендыю спецыяльнага фонду прэзідэнта.

Скурат збіраецца паступаць на факультэт журналістыкі. Яна ўжо публікавалася ў некалькіх выданнях. Напрыклад, у снежні газета «Разам» размясціла яе артыкул пра дзяцей-інвалідаў з Івянецкай школы-інтэрната. На гэтым тыдні ў Каці павінен адбыцца пісьмовы экзамен — сачыненне.

Сяброўкам нічога не вядома, ці фатаграфавала Каця шведскіх мядзведзікаў. Бабуля сцвердзіла, што Кацярына паехала адпачываць. Цётка выпускніцы спрабавала давесці, што Кацярына рыхтуецца да ўступнага іспыту ў Інстытут журналістыкі і застаецца дома. Дзядуля дзяўчыны адмовіўся ад каментароў, сказаўшы: «Вы ж самі ўсё разумееце».

**Аксана Рудовіч**

# Ордэны і ордары

Лукашэнка **ўзнагародзіў 44 камандзіраў** войскаў супрацьпаветранай абароны.

Усе чакалі арыштаў ці хаця б адставак пасля дзёрзкага шведскага пралёту праз мяжу і «медзведзіроўкі» Івянца і Мінска. На справе ж Лукашэнка падпісаў указ аб «Аб узнагароджанні медалямі «За бездакорную службу «І, ІІ, ІІІ ступені». У дакуменце адзначаецца, што больш за 40 служачых беларускай супрацьпаветранай абароны «ўзорна выконваюць свае службовыя абавязкі».

Сярод узнагароджаных падпалкоўнік Аляксандр Вераб'ёў — начальнік штаба і першы намеснік камандзіра 49-й радыётэхнічнай брыгады Паўночна-заходняга аператыўна-тактычнага камандавання ВПС і СПА Узброеных Сіл, палкоўнік Віктар Дробыш — памочнік камандуючага войскамі па кадрах і начальнік аддзела кадраў Заходняга аператыўна-тактычнага камандавання ВПС і СПА, маёр Максім Андросік, камандзір зенітнага ракетнага дывізіёна 15-й зенітнай ракетнай брыгады Паўночна-заходняга аператыўна-тактычнага камандавання Ваеннапаветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны і яшчэ шмат іншых вайскоўцаў. Акурат службы супрацьпаветранай абароны гэтых адзінак адсочваюць мяжу з Літвой.

Медаль знайшоў таксама падпалкоўніка Канстанціна Яборава 116-й гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы Ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны.

За два тыдні да вайсковага параду на Дзень незалежнасці Су-25 менавіта з гэтай часткі разбіўся пад Навагрудкам.

**СГ**

# Эштан: У сэрцы Еўропы палітвязняў быць не павінна

Міністру Мартынаву ў Брусэлі прыйшлося **выслухаць крытыку**.

Прысутнасць міністра замежных спраў Беларусі Сяргея Мартынава на сустрэчы ў Брусэлі 23 ліпеня дала магчымасць «яшчэ раз гучна заявіць пра занепакоенасць» сітуацыяй у Беларусі, сказала вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежнай палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан на прэс-канферэнцыі па выніках сустрэчы кіраўнікоў МЗС краін ЕС і Усходняга партнёрства ў Брусэлі.

«Мы зноў заявілі пра неабходнасць неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітзняволеных, спыненні любых рэпрэсій у краіне і правядзенні сумленных і адкрытых парламенцкіх выбараў у верасні, — сказала Эштан. — Наша пасланне Беларусі было ясным: няма месца палітзняволеным у сэрцы Еўропы».

**БелаПАН**

## Сціісла

**Уса аштрафавалі на 2 мільёны…**

за «заклікі да эканамічных санкцый». Ленінскі суд Мінска вынес гэты прысуд экс-кандыдату ў прэзідэнты завочна. Перад гэтым суд аштрафаваў Віктара Івашкевіча.

**Памёр дэпутат савета рэспублікі Іван Кіявец**

Дырэктару «Дняпро-Бугскага воднага шляху» было 60 гадоў. Развіталіся з ім 23 ліпеня ў Пінску.

**Трох апазіцыянераў выключылі са спіса «невыязных»**

Анатоль Лябедзька, Віктар Карняенка і Валеры Ухналёў дамагліся гэтага падчас судовых разбіральніцтваў.

**Ксенію Сабчак адхілілі ад ток-шоу**

Яна вяла перадачу на МузТВ «Топ-мадэль па-расійску». «Нельга працаваць на тэлебачанні і выказваць адкрыта свае меркаванне», — сказала сама Сабчак, якая падтрымлівае антыпуцінскую апазіцыю.

**ЗП**

# Мядзведзеў: «Беларускім сябрам даўно пара прыняць адпаведнае рашэнне»

**Расія патрабуе «Беларуськалій», у Мінск прылятаў расійскі прэм'ер.**

Візіт Мядзведзева быў імклівым. У Мінск ён прыляцеў а палове на першую дня, а ўжо вечарам зноў накіраваўся ў Маскву. У гэтым прамежку ўмясціліся кароткае спатканне з Аляксандрам Лукашэнкам і больш прадметная размова з калегам Міхаілам Мясніковічам.

Лёгкай гутаркі паміж прэм'ерамі не атрымалася. Візіт выявіў усе супярэчнасці ў беларуска-расійскіх адносін, што накапіляваліся на працягу апошняга года. Расія падчас парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў спагадна заплюшчвала вочы на хітрыкі беларусаў. Але «снежнай» рэвалюцыі ў Маскве не адбылося, сітуацыя ўлагодзілася, цяпер настаў час заняцца свавольным суседам.

Расійскія афіцыйныя асобы неаднаразова выказвалі заклапочанасць тым, што, маўляў, Мінск экспартуе нафтапрадукты пад выглядам арганічных растваральнікаў, каб сысці ад экспартных пошлін у расійскі бюджэт. Расія ацаніла свае страты ў мільярд даляраў.

Эканаміст Яраслаў Раманчук мяркуе, што Беларусь можа страціць 1,5% ВУП у выпадку ліквідацыі схемаў з растваральнікамі. Нават калі маштабы не настолькі вялізныя, то ўдар па эканоміцы краіны атрымаецца ўсё адно істотным.

«Мы дамовіліся ва ўсім разабрацца дасканала, прыняць неабходныя рашэнні. Нават калі яны будуць цяжкімі. І калі парушэнні былі, то асобы, якія парушылі, павінны панесці пакаранне, а эканамічныя інтарэсы павінны быць адноўлены», — сказаў Дз.Мядзведзеў на прэс-канферэнцыі. Тым самым ён даў зразумець, што лавачка з шэрай схемай продажаў «растваральнікаў» будзе прыкрытая.

Ці выкарыстана гэта як козырная карта ў яшчэ адным нялёгкім пытанні — продажы «Беларуськалія»?

«Я лічу, нашым беларускім сябрам даўно пара прыняць адпаведнае рашэнне», — адказаў расійскі прэм'ер на пытанне аб прыватызацыі прадпрыемства.

Лукашэнка ўсяляк спрабаваў пазбегнуць продажу «Беларуськалія», які быў і застаецца адной з галоўных крыніцаў папаўнення бюджэту. Цяпер Расія прадэманстравала, што будзе ў гэтым пытанні больш настойлівай. Аднымі абяцанкамі тут не адкруцішся. Тым больш, Расія натхнёная прыкладам МАЗу, які знаходзіцца ў «прасунутым стане» аб'яднання з КАМАЗам.

Плюс да ўсяго бакі падпісалі генеральны кантракт на пабудову Астравецкай АЭС. Цырымонія падпісання адбылася ў прысутнасці прэм'ер-міністраў дзвюх краін. На пабудову двухблочнай атамнай станцыі паводле расійскага праекта магутнасцю да 2400 МВт Расія выдзяляе крэдыт $10 млрд.

Гэта ўзмацняе ступені залежнасці Беларусі ад Расіі. І невядома, як з яе выходзіць. Еўрапейцы нагадваюць пра сябе стандартнымі рэзалюцыямі, але не здымаюць ранейшых умоваў для аднаўлення падтрымкі. Патрабаванні ранейшыя — спыненне рэпрэсій.

**Зміцер Панкавец**



Лукашэнку і Мясніковічу ёсць пра што падумаць.

### Цырк ад Мядзведзева ў Інстаграме

Як вядома, прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў любіць заўважацьфатаграфаваць навакольныя падзеі, а потым выкладаць фотаздымкі ў інтэрнэт.

Вось і падчас наведвання Мінска яму ўдалося сфатаграфаваць мінскія вуліцы. Фотаздымак Белдзяржцырка ў сённяшніх рэаліях выглядае двухсэнсоўна. Або Мядзведзеў сапраўды намякае.

Здымак Мядзведзеў зрабіў пры дапамозе Інстаграма — гэта модная бясплатная праграма для смартфонаў і планшэтных камп'ютараў, якая дазваляе рабіць надзвычай прыгожыя здымкі з дапамогай разнастайных фільтраў. Знешнія прыкметы фота з Інстаграму — квадратны памер здымка і чорная рамка вакол яго. Атрыманае фота можна выставіць у спецыяльную сацыяльную сетку Інстаграм. Аднак у Беларусі яна не надта папулярная, таму здымкі найчасцей публікуюцца аўтарамі ў Фэйсбуку. Дарэчы, стваральнік Фэйсбука Марк Цукерберг сёлета выкупіў Інстаграм за 1 мільярд даляраў.



# Старшыні райвыканкамаў ідуць у дэпутаты

**Сталі вядомыя першыя ўдзельнікі парламенцкіх выбараў.**

На 110 акругаў было пададзена 439 заяваў. Але ад гэтай лічбы можна адняць ініцыятыўныя групы Мікалая Статкевіча, якія адмовіліся рэгістраваць, ды Алеся Міхалевіча.

Ёсць яшчэ некалькі адмоваў. Колькасць жадаючых стаць дэпутатамі павялічыцца пасля таго, як правядуць свае з'езды і вылучаць прадстаўнікоў палітычныя партыі, але ўжо сёння можна падводзіць некаторыя вынікі.

### Брэст: апазіцыя па ўсіх акругах

Вядома, што па Брэсцкай Заходняй акрузе №1 збіраецца балатавацца былы старшыня сацыял-дэмакратаў Анатоль Ляўковіч, яму канкурэнцыю складзе колішняя паплечніца Ганна Канюс з БСДП. Таксама будзе ў той акрузе Людміла Дзенісенка са «Справядлівага свету». Увогуле, у Брэсце ўсе акругі будуць з альтэрнатыўнымі кандыдатамі.

У Баранавічах выразна бачныя праўладныя кандыдаты па ўсіх трох акругах. №5 — дэпутат гарсавета Вольга Палітыка (супернік — прадпрымальнік Мікалай Чарнавус), №6 — галоўны доктар паліклінікі №1 Аляксандр Сцяцко (супернік — дэпутат гарсавета ад «Справядлівага свету» Аляксандр Галькевіч), №7 — старшыня Баранавіцкага райвыканкама Аляксандр Язубец (пакуль безальтэрнатыўна).

### Правальскі зноў балатуецца

Вядомы па мінулай прэзідэнцкай кампаніі прадпрымальнік Уладзімір Правальскі вырашыў балатавацца ў палату ў Віцебскай-Кастрычніцкай акрузе. Правальскі запомніўся тым, што «сабраў» 100 тысяч подпісаў у адным раёне Віцебска. Тады яго не зарэгістравалі. Супернікамі будуць дырэктар медкаледжа Аляксандр Цацоха, а таксама былы палітвязень, сябра «Гавары праўду» Сяргей Парсюкевіч.

У Наваполацкай акрузе Яраславу Берніковічу з «Гавары праўду» будзе супрацьстаяць малатабоец, медаліст Алімпіяды Вадзім Дзевятоўскі. Можа, праз выбары і не паехаў у Лондан.

У Полацку зарэгістраваная ініцыятыўная група скандальнага вядучага АНТ Аляксея Міхальчанкі, але кандыдатам улады будзе не ён, а старшыня Полацкага гарсавета Наталля Гуйвік.

У дэпутаты ідуць старшыні Лепельскага і Аршанскага райвыканкамаў.

### Зноў Касцян

Такая самая тэндэнцыя ёсць і на Гомельшчыне. Чачэрскія камунальнікі вылучылі кандыдатам у дэпутаты старшыню Рэчыцкага райвыканкама Пятра Шостака. А лельчыцкія леснікі — дзеючага дэпутата парламента Сяргея Канопліча.

У Мазыры зноў выказаў жаданне трапіць у парламент старшыня «Славянскага свету» Сяргей Касцян. Праўда, ад улады тут вылучаецца, найхутчэй, Мікалай Расоха — дырэктар агародніннай фабрыкі.

### Доктар Шэга супраць дырэктаркі школы

Вадзім Саранчукоў з БНФ падаў дакументы на рэгістрацыю ва ўсіх акругах Гродна. Былы дэпутат палаты і палітвязень Сяргей Скрабец паспрабуе шчасця ў Лідзе, там яму будзе супрацьстаяць хірург Віктар Гушча.

Доктар Іван Шэга вылучаецца на радзіме ў Слоніме. Экзітполы на мінулых выбарах давалі яму перамогу. Цяпер прадстаўніку БНФ у супернікі абралі дырэктарку школы Алу Сопікаву.

### У Барысаве як у 2004

У Барысаўскай гарадской акрузе кандыдаты амаль не змяніліся з 2004 — прадпрымальнік Леў Марголін (АГП) і рэдактар «Барысаўскіх навін» Анатоль Букас. Ад улады выставілі кіраўніцу спраў райвыканкама, актывістку «Белай Русі» Красоўскую. Дэпутат Віктар Гумінскі будзе балатавацца ў Барысаўскай сельскай, яна звычайна безальтэрнатыўная. Гумінскі — рэкардсмен, ён балатуецца ў чацверты раз.

Вельмі дзіўныя акругі ў Салігорскім раёне. На абедзве з іх улады выставілі двух сваіх кандыдатаў. № 68: Яўген Абаленскі і Ігар Дзялендзік. Першы з'яўляецца дзеючым дэпутатам палаты прадстаўнікоў. Другі — дырэктар салігорскай камунальнай гаспадаркі. №69: старшыня Кастрычніцкага сельсавета Ірына Бас ды начальніца ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама Таіса Данілевіч.

### Лідары ў Мінску

У Мінску будзе аж 20 акругаў. Ды і конкурс у сталіцы абяцае быць самым высокім у краіне. Вядома, што ва Уруччы будзе балатавацца лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, у Аўтазаводскай акрузе — старшыня БНФ Аляксей Янукевіч.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька падаў дакументы на рэгістрацыю ў Старавіленскай акрузе. У Купалаўскай (на гэтым участку галасую за мяжой), Міхась Пашкевіч з «Гавары праўду», які некалі ўзначальваў моладзевае крыло АГП. Ад улады тут вылучаецца дэпутатка Валянціна Ляволенка.

А вось у Каліноўскай акрузе «змагару» Івану Амельчанку ў рэгістрацыі адмовілі, затое подпісы пачаў збіраць вядучы АНТ Жан Садэль. Яшчэ ў Мінску вылучаецца славуты доктар Хадоркін.

**ЗП**



Люк каля крамы «Акіян».



У арцы на Чырваназорнай.



Праспект Незалежнасці, 18.



Каля хімфака БДУ на Ленінградскай.

# Як у Мінску кладуць плітку

Прыклады **парушэнняў тэхналогіі** сустракаюцца ледзь не на кожным кроку.

Карэспандэнт «НН» прайшоўся па цэнтральных вуліцах сталіцы ад Залатой Горкі да Чыгуначнага вакзала. Зачэпкай для праменаду стаў каналізацыйны люк насупраць крамы «Акіян», што на перасячэнні праспекта Незалежнасці і вуліцы Казлова. Люк амаль праваліўся пад зямлю. Яго абазначылі белачырвонай стужкай і лёгкай агароджай.

Супадзенне ці не, але праз некалькі гадзін пасля таго, як карэспандэнт «НН» сфатаграфаваў аварыйнае месца, правал ліквідавалі.

Наступны пункт — каля кіёска «Белсаюздруку», непадалёк ад кавярні «Лондан». Гэта ўбаку ад ажыўленых ходнікаў праспекта, але правал у вочы кідаецца і выглядае непрыгожа.

Збочваем на Камсамольскую. Уздоўж сцяны крамы оптыкі Fielmann добра бачнае прасяданне пліткі. Увогуле, ходнікі тут выгінастыя, нібы пасля землятрусу.

Прасяданне пліткі на ходніках трапляецца і каля корпуса хімічнага факультэта БДУ на Ленінградскай. Тут штодня ходзяць тысячы людзей. Аварыйнае месца не агароджанае.

Варта заўважыць, што адшукаць падобныя кропкі не складае вялікай цяжкасці. Большасць з іх навідавоку.

Самыя распаўсюджаныя — няроўнасці. У цэнтры сталіцы цяжка знайсці нават не ідэальна, а хоць бы аднолькава роўны, без гарбоў, участак ходнікаў. Асабліва хібы робяцца заўважнымі пасля дажджу, калі правалы запаўняюцца вадой.

### Хто кладзе плітку ў Мінску

Будаўніцтвам, капітальным рамонтам гарадскіх дарог займаецца дзяржаўнае прадпрыемства «Упраўленне дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкавання Мінгарвыканкама». Гэтае ж прадпрыемства займаецца і вытворчасцю будматэрыялаў, у тым ліку пліткі.

**Сямён Печанко**




**У Галандыі плітку кладзе машына**

Tiger-Stone — машына, якая сама кладзе на загадзя падрыхтаваную пляцоўку плітку і брук, да 300 кв.м за змену. Ад апаратара патрабуецца толькі загружаць плітку ў адмысловы прыёмнік — простым засыпаннем з пагрузчыка. Далей машына сама сартуе і ўкладвае плітку.

# Беларускі спадарожнік на арбіце

**Але якасць** яго здымкаў у 6 разоў горшая за бясплатныя карты ад Google.

Беларускі спадарожнік дыстанцыйнага зандавання Зямлі 22 ліпеня быў паспяхова запушчаны з касмадрома Байканур у Казахстане. Яго афіцыйная назва — БКА (Беларускі касмічны апарат). Аднак у народзе яго часцей называюць «БелКА-2», у памяць пра спадарожнік «БелКА», які ў ліпені 2006 разбіўся проста пры ўзлёце, пад пільным поглядам Аляксандра Лукашэнкі.

Расійская ракета «Саюз-ФР» вывела ў космас пяць апаратаў за адзін раз. Расійскі «Зонд-ПП» будзе ствараць мапы вільготнасці глебаў і салёнасці вады. Канадскі спадарожнік ADS-1B запушчаны для таго, каб адсочваць перасоўванні марскіх суднаў, а нямецкі ТЕТ-1 — адпрацоўваць новыя тэхналогіі ў касмічным палёце.

А вось БКА, як і ягоны расійскі брат-блізнюк «Канопус-В», будзе займацца здымкамі шырокага профілю. «Пры дапамозе спадарожніка будзем сачыць за развіццём паводкі, лясных пажарамі, — заявіў прэс-сакратар МНС Віталь Навіцкі. — Да сённяшняга дня касмічныя здымкі нас абсалютна не задавальнялі».

У параўнанні з «БелКА», БКА стаў лягчэйшым амаль у два разы. А вось ягоны кошт у два разы вышэйшы. Запуск першага спадарожніка каштаваў краіне $10 мільёнаў, а другога — $16-17 мільёнаў. Пры гэтым, па словах старшыні прэзідыума НАН Беларусі Анатоля Русецкага, большую частку выдаткаў узяла на сябе Расія. Апарат распрацаваны на прадпрыемстве «Пеленг» (кампанія, створаная ў часы СССР на базе Мінскага механічнага завода імя Вавілава). Тэрмін яго службы складае каля 5 гадоў.

Што да якасці карцінкі, спадарожнік будзе здымаць у двух рэжымах — чорна-белым і каляровым. У першым выпадку з космаса будуць заўважныя аб'екты, большыя па велічыні за 2 метры. Калі ж патрэбная каляровая карцінка, то ў адзін піксель трапіць толькі 10-метровы аб'ект. Гэты факт абвяргае папулярную канспіралагічную версію, згодна з якой спадарожнік насамрэч запушчаны для сачэння за беларусамі. Людзей на беларускіх касмічных здымках проста немагчыма разгледзець.

Для параўнання, у амерыканскага спадарожніка GeoEye-1 гэтыя характарыстыкі складаюць 0,4 і 1,65 метра адпаведна. Пры гэтым атрыманыя ім здымкі ў крыху ўрэзанай якасці з'яўляюцца на бясплатным папулярным інтэрнэт-рэсурсе Google Maps.

Тым не менш, Беларусь настроеная прадаваць свае здымкі ў іншыя краіны. Сярод заяўленых купцоў пакуль што названыя Венесуэла і Азербайджан. Праўда, каўказцы сёлета збіраюцца запусціць свой спадарожнік.

**Ягор Марціновіч**

# Топ-7 прыватных гатэляў Беларусі

**Ад «Мірскага замка» Юрыя Чыжа да эмігранцкага «Эрмітажа» ў Брэсце. Якія, і колькі каштуе спыніцца.**

Гатэльны бізнэс з часоў СССР трымаўся ў руках мясцовых уладаў. У кожным райцэнтры знаходзіліся маленькія гасцініцы, часам з выгодамі на паверсе, якія цэлыя дзесяцігоддзі не бачылі рамонту. «Камандзіровачным», якія складалі асноўную аўдыторыю гасцініц, такіх умоваў было дастаткова, аднак бізнэс новага пакалення мае вышэйшыя патрабаванні.

Грошай у дзяржавы на стварэнне сучасных новых гатэляў не было, таму справу падхапілі беларускія мільянеры. Прычым цікавіць іх будаўніцтва не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах. «Наша Ніва» склала спіс самых прэзентабельных прыватных гатэляў краіны. Мы падаем для кожнага з іх мінімальны кошт нумара на двух чалавек.

Ягор Марціновіч







## 1. «Мірскі замак»

Унікальны замкавы гатэль у Міры належыць кампаніі «Трайпл» Юрыя Чыжа. У ім усяго 15 нумароў, але якія — з сістэмай клімат-кантролю, цёплымі падлогамі і джакузі. Адзін з пакояў нават названы «прэзідэнцкім». І хоць у гатэль могуць засяліцца толькі 29 чалавек, «Мірскі замак» карыстаецца папулярнасцю. Напрыклад, на навагоднія канікулы яго цалкам выкупілі расійцы. Пры гэтым цэны не выглядаюць занадта высокімі, калі ўлічыць характэр месца. Ад 70 еўра на дваіх — але за незабыўную ноч.




## 2. Robinson Club (Ратамка, Мінскі раён)

Яшчэ адзін мільянер, гаспадар «Кароны» і «Тытунь-Інвеста», а па сумяшчальніцтве — кіраўнік адной з участковых выбарчых камісій Павел Тапузідзіс летась адкрыў свой клуб на беразе Мінскага мора. У складзе «Робінсан-Клуба» — канцэртная пляцоўка, рэстаран, спа-цэнтр і верталётны клуб. Пасля выступлення любімага гурту можна і заначаваць. У гатэлі 51 нумар. Кошт на дваіх вагаецца ад 1,6 мільёна рублёў за стандартны нумар да 5 мільёнаў рублёў за двухпакаёвыя прэзідэнцкія апартаменты.

## 3. Crowne Plaza (Мінск)

72-гадовы турэцкі мільярдэр Судзі Аскан пабудаваў пяцізоркавы гатэль на радзіме сваёй жонкі, 32-гадовай Кацярыны Шулькевіч. Дарэчы, летась пара развялася.

Шыкоўная «Краўн Плаза» паўстала на месцы гістарычнай гасцініцы «Свіслач» насупраць стадыёна «Дынама» і стала другім гатэлем з такой колькасцю зорак пасля муніцыпальнай «Еўропы». У 115 нумароў «Краўн Плазы» могуць засяліцца 227 турыстаў.




## 4. «Эрмітаж» (Брэст)

Адкрыты летась у Брэсце чатырохзоркавы гатэль Hermitage («Эрмітаж») стаў своеасаблівай данінай роднаму гораду расійскага бізнэсоўца Уладзіміра Мікуліка. Ён — суўладальнік кампаніі «Алтэк», якая займаецца нафтай, газам і нерухомасцю. Са сваімі $500 мільёнамі Мікулік стаіць на мяжы спісу 200 самых багатых расійцаў.

Трохпавярховы «Эрмітаж» паўстаў на месцы былой афіцэрскай гасцініцы і выкананы ў стылі даваеннага мадэрна. Ён мае 55 нумароў.

## 5. «Сямашка» (Гродна)

Беларускі паляк Станіслаў Сямашка лічыцца адным з самых багатых людзей Гродна. Пачаўшы бізнэс-кар'еру ў Шчучыне, дзе яму належыць гатэль «Элен», ён у сярэдзіне 1990-х перабраўся ў абласны цэнтр. Там яму належаць гатэль «Сямашка», будаўнічая кампанія «Рэмбудмантаж» і праектная арганізацыя «Еўрапрэстыж».

Апроч таго, Сямашка на працягу 2009-2012 гадоў узначальваў прадзяржаўны Саюз палякаў.

Ягоны трохзоркавы гатэль «Сямашка» складаецца з некалькіх карпусоў, першы з якіх быў пабудаваны ў 2003 годзе. Агулам яны маюць 41 нумар на 78 чалавек.







## 6. «СлавінаСпорт» (Жлобін)

Трохзоркавая «СлавінаСпорт» у Жлобіне належыць кампаніі «Юнівест-М» расійска-беларускага мільянера Анатоля Тарнаўскага. Дарэчы, у будынку працуе і ягоная піцэрыя «Ліманчэла».

Пяціпавярховы гатэль змяшчае 29 нумароў для 76 гасцей.




## 7. «Веста» (Дзяржынскі раён)

Рэйман Карлавіч Веніямінаў пакрысе будуе сваю бізнэс-імперыю яшчэ з 1986 года. Ягоныя дзве «філіі» — Віцебск і Дзяржынск. У першым горадзе ён здолеў атрымаць каля 50 крамаў, каля другога яму дазволілі пабудаваць запраўкі, а таксама спартыўна-аздараўляльны комплекс. Усе гэтыя аб'екты працуюць пад брэндам «Веста».

Трохзоркавая «Веста» на трасе Мінск—Брэст пад Дзяржынскам з'яўляецца, па сутнасці, прыдарожным матэлем, аднак цэны на пражыванне тут большыя, чым у Мірскім замку. Зрэшты, тут знаходзіцца цэлы комплекс, які складаецца з санаторыя, медыцынскага цэнтра, тэнісных кортаў, футбольнага поля. Цяпер побач з гатэлем пачалося будаўніцтва яшчэ і горкі для катання на лыжах.

## Сцісла

### Новы трыльён наяўных

За чэрвень аб'ём наяўных рублёў у звароце вырас на 1,2 трыльёна (15%). На 8% вырасла і агульная рублёвая маса. На такія крокі Нацбанк рашыўся, атрымаўшы чарговую частку крэдыту ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС.

### Металургічны завод на Мёршчыне

Кампанія «МНПЗ-Груп» пачынае будаўніцтва завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі ў Мёрскім раёне. Патрэбны аб'ём інвестыцый — каля $100 мільёнаў. Меркаваная магутнасць прадпрыемства складзе 200 тысяч тон металапрадукцыі ў год. Гэта дазволіць скараціць імпарт у краіну на $290 мільёнаў.

### $350 мільёнаў на кардон

Кітай даў крэдыт Беларусі на пераабсталяванне Добрушскай папяровай фабрыкі «Герой працы». $350 мільёнаў будуць выдаткаваныя на будаўніцтва комплексу па вытворчасці мелаванага і немелаванага кардону. Пазычаныя грошы будуць вяртацца з рэспубліканскага бюджэту ад 2016 да 2025.

### «Вяйнянская крыніца» закрываецца

З канца гэтага месяца пачынаецца працэдура ліквідацыі завода безалкагольных напояў і мінеральнай вады. Завод пад Магілёвам быў уведзены ў эксплуатацыю ў 1994 годзе.

### Чыж і Буракоўскі аб'ядналі свае аконныя бізнэсы

У пачатку ліпеня на беларускім рынку з'явіўся найбуйнейшы вытворца аконных сістэм з ПВХ і алюмінію — кампанія «Мінскі дом вокнаў». 50% у ёй атрымалі ўладальнікі прадпрыемства «Трайплтэхна» на чале з Юрыем Чыжом, яшчэ 50% — уладальнік былых «Мінскіх вокнаў» Іван Буракоўскі.

ЯМ

# «Лекі трэба да канца жыцця. І што, мне кожны раз браць рэцэпт?»

Чытач не задаволены новымі правіламі **выпіскі лекаў**.

Чытач «НН» Сяргей Б. мае неабходнасць у гарманальных прэпаратах кожны дзень. У яго выдалілі шчытападобную залозу. Ён мае льготы на атрыманне айчынных прэпаратаў, але набывае нямецкія лекі. Цяпер ён вымушаны набываць лекі па рэцэпце.

**Рэцэпт праз інтэрнэт**

Зусім не фантастыка. У Эстоніі, напрыклад, гэта сталая практыка. Пацыент атрымлівае рэцэпт ад доктара праз інтэрнэт на сваю ID-картку і з ёй ідзе ў аптэку. У Беларусі электронныя рэцэпты пачалі выдаваць дзве сталічныя паліклінікі. У будучыні плануецца распаўсюдзіць гэтую практыку па ўсёй краіне. А пакуль тое, у большасці мінскіх паліклінік талон да доктара можна замовіць праз інтэрнэт.

**Афіцыйна**

З 1 ліпеня 2012 без рэцэпта можна набыць 3279 найменняў лекавых сродкаў, што складае 61,6% лекаў ад усіх зарэгістраваных у краіне. Рэцэпт ад доктара спатрэбіцца для набыцця 1985 лекавых сродкаў.

Толькі па рэцэптах цяпер можна набыць наркатычныя, псіхатропныя і моцнадзейныя сродкі; сродкі, якія прымяняюцца для лячэння эпілепсіі, псіхалагічнай і фізічнай залежнасці ад розных рэчываў, антыбіётыкі трэцяга і чацвёртага пакаленняў, інсулін, гармоны, анаболікі, некаторыя антыарытмічныя, гіпатэзіўныя і кардыятанічныя лекавыя сродкі, а таксама лекавыя сродкі, што прымяняюцца для лячэння анкалагічных хворых.

«Каб атрымаць яго, мушу ехаць на прыём у раённую паліклініку, а гэта няблізкі шлях. Там запатрабуюць здаць аналізы, і з імі мне давядзецца зноў ісці да доктара. У дзяржаўных паліклініках вялікія чэргі і перагружаныя дактары», — кажа чытач. Сяргей турбуецца, што з-за неабходнасці дазволу лекараў на атрыманне прэпарата ў яго могуць узнікнуць непрадбачаныя сітуацыі. «А як доктара з нейкай прычыны не будзе на месцы? Хто мне выпіша рэцэпт? Лекі ж мне трэба прымаць штодзённа».

Чытач расказвае, што шмат разоў тэлефанаваў на «гарачую лінію» Мінаховы здароўя, але нумар увесь час быў заняты. «Мабыць, не толькі ў мяне ёсць крытычныя пытанні да міністэрства».



**Няўмольная статыстыка і аптымізм міністэрства**

Ініцыятыва Мінаховы здароўя ў многіх выклікала сумненні. Нават афіцыйная статыстыка няўмольна сведчыць пра недахоп медыкаў. Толькі пасля першага года адпрацоўкі дыплома працу кідае да траціны маладых лекараў.

У міністэрстве аптымістычна кажуць, што неабходнасць атрымання рэцэптаў падвысіць загружанасць супрацоўнікаў паліклінік максімум на 15%. Ведамства падрыхтавала і адпаведныя захады: хранічным хворым тэрмін дзеяння рэцэптаў прадоўжылі да шасці месяцаў замест аднаго. Акрамя таго, рэцэпт можна атрымаць у платных медцэнтрах. Інваліды I і II групаў маюць права выклікаць доктара дамоў.

**Сямён Печанко**



Такія дарожкі сустракаюцца ў дварах вуліцы Скрыганава.

СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Водгук**

## Жыхарка вуліцы Скрыганава: Лепш бы пакінулі той асфальт на траве!

Жанчыну **абурыў розгалас** вакол асфальтаванай дарожкі.

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» патэлефанавала жыхарка дома №11 па вуліцы Скрыганава. Зачапіў яе артыкул пра асфальтаваную дарожку, пакладзеную па траве.

Жанчына расказала, што эпапея з дарожкай цягнецца не першы год. «Дарожку паклалі не да 3 ліпеня. Я прасіла пра гэта наш ЖЭС два гады».

Яе абурыў розгалас вакол дарожкі. Маўляў, зрабілі хутка і з мінімальнымі выдаткамі. А цяпер, калі нехта сфатаграфаваў і ўсчаўся вэрхал і нават падключылася пракуратура, у дарожку «выкінуць мільёны».

Жанчына кажа, што іх раён стары, ім не патрэбная шыкоўная дарожка. Няхай бы такія рабілі ў новых раёнах.

«Сапраўдная праблема для жыхароў нашых дамоў — гэта ўстановы насупраць. Асаблівa лазня ў доме №6. Цэлымі днямі адтуль ідуць пад нашымі вокнамі самыя розныя людзі, часта п'яныя».

Для іх жыхары дома і прасілі пакласці дарожку. Ды так, каб акурат паміж дамамі, а не пад вокнамі.

«Гэта проста анекдот. Няўжо ў пракуратуры няма больш сур'ёзных спраў, чым гэтая дарожка. Ну, паклалі не па тэхналогіі, але гэтая дробязь не вартая такой высокай увагі», — перакананая жанчына.

**СП**

## Усё жыццё дапамагала хворым дзецям, а цяпер самой патрэбна дапамога

39-гадовай **супрацоўніцы дзіцячага анкацэнтра** патрэбна тэрміновае лячэнне.



Віялеце Гаўрынай 39 гадоў. З іх 24 яна працуе ў дзіцячым анкалагічным цэнтры ў Бараўлянах. У дзяцінстве Гаўрына сама цяжка хварэла, у 15 гадоў пайшла працаваць у анкацэнтр санітаркай, каб дапамагаць хворым дзецям. Скончыла медвучэльню, потым інстытут. Працавала псіхолагам-педагогам.

У сярэдзіне 1990-х у Віялеты выявілі гепатыт С. Яна трымала хваробу пад кантролем больш за дзясятак гадоў, але ў 2010 ёй стала зусім дрэнна. Віялеце прапанавалі платнае лячэнне? і спачатку яно давала плён. Потым хвароба пачала браць сваё. Віялеце патрэбны новы курс лячэння.

«Мне страшна і крыўдна, але любоў да жыцця прымушае змагацца за здароўе. Я працягваю працаваць, дапамагаць анкахворым дзецям. Але сваё лячэнне так і не пачала — няма грошай. На яго трэба 34 тысячы даляраў. Курс плануюць на год-паўтара. Мой заробак — 180 даляраў. Як быць — не ведаю. Застаецца толькі чакаць і спадзявацца, што знойдуцца людзі, якія дапамогуць. Я вучу дзяцей верыць у перамогу над хваробай. Значыць, і сама буду верыць», — расказвае пра сябе Віялета. Яе знаёмыя ведаюць, чаго каштавала жанчыне пайсці на такі крок. Віялета вельмі неахвотна дала дазвол уключыць яе ў спіс дапамогі дабрачыннай суполкі «Клуб 5000».

Сярод апекуноў хворых дзяцей нямала зорак айчыннай эстрады і тэлебачання. Яны ладзяць для хворых малых дабрачынныя канцэрты. Многія з іх арганізавала акурат Віялета Гаўрына. «Зрабіўшы невялікае ахвяраванне, вы адначасова дапаможаце многім хворым дзецям, якіх падтрымлівае Віялета — яна патрэбная ім!» — гаворыцца ў звароце ў падтрымку Гаўрынай.

**СП**

**Дабрачынныя рахункі на імя Гаўрынай Віялеты Дзмітрыеўны:**
ААТ «ААБ Беларусбанк»,
аддзяленне № 176, ф-л № 511,
г. Мінск, вул. Ванеева, 18.
УНП 100349858
Код Банка 153001815
**Беларускія рублі** — код валюты 974 транзітны рахунак 3819382103561 на дабрачынны рахунак № 000001.
**Расійскія рублі** — код валюты 643 транзітны рахунак 3819382104993 на дабрачынны рахунак № 000002.
**Даляры ЗША** — код валюты 840 транзітны рахунак 3819382104993 на дабрачынны рахунак № 000007.
**Еўра** — код валюты 978 транзітны рахунак 3819382104993 на дабрачынны рахунак № 000001.
Прызначэнне плацяжу: для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Гаўрынай Віялеты Дзмітрыеўны для яе лячэння і рэабілітацыі.

**Зачапіла**

## Зафарбуйце свастыку!

Прачытаў, што ў мінскім мікараёне Уручча затрымалі актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Андрэя Моўчана. Пішуць, што ён прыклеіў пад мостам налепку «Не — смяротнаму пакаранню». Хлопца абвінавацілі паводле арт. 23.14 КоАП (парушэнне правілаў добраўпарадкавання гарадоў) і арт. 17.1 (дробнае хуліганства).

Тым часам у Заслаўі ў мікараёне №2 каля жылых дамоў на агароджы побач са сметнікам невядомыя намалявалі свастыку і антысеміцкія лозунгі. Надпісы трымаюцца ўжо больш за тыдзень. Хоць зусім побач пралягае маршрут міліцэйскага патруля.

**СП**

# Пераплысці Вардар

БАТЭ паставіў сябе ў **цяжкае становішча**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Віталь Радзівонаў забіў два галы македонцам.**

За апошнія гады ніколі не было так трывожна за еўракубкавую адысею беларускага чэмпіёна. БАТЭ сёння не ў найлепшай форме. Тры матчы запар ва ўнутраным першынстве не можа атрымаць перамогу. А тут яшчэ на Алімпіяду адправіўся «касцяк» каманды: Дзмітрый Бага і Рэнан Брэсан. Калі страту аднаго з іх яшчэ б можна было кампенсаваць, то двух адразу — вельмі цяжка.

Сапраўды, у першай гульні Лігі чэмпіёнаў з македонскім «Вардарам» барысаўцам не хапала думкі ў цэнтры поля. Асабліва пасля таго, як у гасцей атрымаўся бліцкрыг у пачатку другога тайма, яны забілі два галы і выйшлі наперад з лікам 1:2.

Канцоўка гульні, канечне, была фантастычнай. Віталь Радзівонаў забіў два галы галавой ужо ў кампенсаваны арбітрам час. Амаль як «Манчэстар Юнайтэд» «Баварыі» ў фінале Лігі чэмпіёнаў 1999.

БАТЭ перамог з лікам 3:2. Але змрочных думак перад выездам у Скоп'е не паменела. Ці зможа БАТЭ справіцца з водамі старажытнага Вардара?

А вось «Гомелю» вылазка ў тую ж Македонію ўдалася. «Зялёна-белыя» ў гасцях перамаглі «Рэнову» — 2:0. Перад матчам у адказ амаль ніхто не верыць у поспех балканцаў.

У выпадку перамогі наступным супернікам гамельчукоў будзе славуты «Ліверпуль» са Стывам Джэрардам на чале.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Гэткі абрыс Беларусі, з чарнобыльскай плямай, знаходзіцца на праспекце Дзяржынскага, ля новай развязкі. Вось цікава: «Зелянбуду» сініх каменьчыкаў бракавала, ці яны так сур'ёзна ставяцца да чарнобыльскай трагедыі?**

**Алесь Давыдоўскі**

## Колькасць прастытутак у Мінску дасягнула 700

**Прастытутаў** — 20 чалавек.

Лічбы агучыў намеснік начальніка ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС Сяргей Калтун.

Паводле яго словаў, сёлета выяўленыя 140 чалавек, якія займаюцца прастытуцыяй. У органах МУС на ўліку стаяць 1830 чалавек, звязаных з сэкс-бізнэсам (у тым ліку 700 — у Мінску), што на 90 больш, чым год таму. Сярод іх — 20 мужчын, якія аказваюць гетэра- і гомасэксуальныя паслугі.

Калі міліцыя праводзіць рэйдавыя мерапрыемствы, толькі ў Мінску за адну ноч затрымліваецца каля 50 прастытутак.

Іх караюць штрафамі, якія складаюць ад 20 да 50 базавых велічынь, а таксама адміністрацыйнымі арыштамі. Сёлета да адміністрацыйнай адказнасці за прастытуцыю прыцягнуты 651 чалавек (422 — у Мінску).

**СЦ**

## Ганцавічы з-пад бел-чырвона-белага крыла

Сотні жыхароў Ганцавіч на мінулым тыдні сталі сведкамі рэдкага відовішча — у паветры над горадам на лятальным апараце лунаў чалавек. Рызыкоўны і смелы палёт на асабістым мотапараплане ўвечары 10 ліпеня здзейсніў Міхаіл Лемяшэўскі.

«Для мяне гэтае спалучэнне колераў — святое. Гэта сімвалы маіх продкаў», — адказаў сп. Лемяшэўскі на пытанне, чаму крыло параплана было бел-чырвона-белым.

Анатоль Лемяшэўскі сам з Ганцавічаў, але працуе ў Расіі. Год таму ён пабачыў у сябра такі параплан і загарэўся ідэяй праляцець на ім над родным горадам.

**«Ганцавіцкі час»**





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Пятая ўлада

Здараюцца ў нашым жыцці такія падзеі, якія мала хвалююць грамадства, але лепш за любыя апакаліптычныя прадказанні сведчаць пра тое, што грамадства ў нашай дзяржаве фактычна няма.

Нядаўняе судовае разбіральніцтва па справе так званых «невыязных» яскрава сведчыць пра тое, што і дзяржавы ў нас няма. Той дзяржавы, якая ствараецца для патрэбаў грамадства, абслугоўвае ягоныя інтарэсы і ахоўвае іх ад незаконных, неканстытуцыйных памкненняў.

Што ж тады ёсць?

Ёсць «адпаведныя органы»... Тое, што ўмоўна можна назваць «пятай уладай».

Вось вы ў цалкам адпаведным закону і Канстытуцыі парадку займаецеся праваабарончай дзейнасцю, без якой, дарэчы, не існуе ў сучасным свеце аніводная цывілізаваная дзяржава, нават цывілізацыя ўвогуле. Такая дзейнасць не дыхае ў замкнёнай прасторы, без міжнародных адносін, бо абарона правоў чалавека — праблема сусветная. І сусветная, без межаў паміж краінамі, мэта. Карацей кажучы, праваабаронцы проста павінны ў нашых з вамі інтарэсах ездзіць па свеце... І раптам паміж імі і грамадствам, паміж імі і дзяржавай дробным, нібыта шашаль, свярдзёлкам угрызаецца нейкая «адпаведная служба», якой пофіг сапраўдныя грамадскія і дзяржаўныя інтарэсы. Спачатку яна ставіць «жалезную заслону», а потым тлумачыць яе нейкай «тэхнічнай памылкай»...

У паўзабытыя камуністычныя часы з так званымі «дырэктыўнымі органамі», з пільнай «адпаведнай службай» можна было сутыкнуцца на кожным кроку. Ды і не хаваліся яны асабліва, дакладна ведаючы, што законы ёй не пісаныя і не будуць пісаныя ніколі...

Потым моцным і бадзёрым «левым маршам» мы прайшлі кароткі курс дэмакратычнай палітпісьменнасці. І, нарэшце, даведаліся, што разумны, добры і вечны лад дзяржаўнага жыцця магчымы толькі пры наяўнасці аж чатырох улад. Першая стварае законы, другая іх выконвае, трэцяя сочыць за іх выкананнем, ахоўвае ад парушэнняў і судзіць, калі што не так. Ну, а чацвёртая інфармуе грамадства пра ўсё, што адбываецца на айчынных прасторах, у іншых уладах таксама, і выводзіць на святло божае ўсё, што прагне схавацца ў цяні...

Потым чалавека, што стаміўся ад барацьбы за капечнае існаванне і забыўся ў салодкім сне ўспамінаў аб «жалезным парадку», пераканалі ўсё ж, што адна, але палымяная, улада лепей — сама за ўсіх усё зробіць, сама ўсім усё раскажа і сама за ўсё ўсіх пакарае...

І да ўсіх гэтых гістарычных метамарфозаў з нязрушнай жыццядольнасцю прыстасоўваецца «пятая ўлада». Хто-хто, а яна добра ведае, што мы не ўмеем, ды і не вельмі імкнемся жыць па законе. Лёгка пагаджаемся з тым, што нехта абавязкова павінен наладжваць жыццё пад сябе, пад свой бессмяротны інтарэс. У псеўдарыначных абставінах — грашова небескарыслівы...

**Нармальны чыноўнік абслугоўвае закон, а носьбіт «пятай улады» «кіруе працэсам»**

Хто ж гэты «нехта»? Чыноўнік? Але чыноўнік — гэта вялікае дабро для любой дэмакратычнай дзяржавы, яе апорная канструкцыя. Без чыноўніка яна не здолее абслугоўваць свайго грамадзяніна і падаткаплацельшчыка, не здолее быць дзяржавай ды ўвогуле быць.

Тады хто?

За час свайёй журналісцкай працы я не аднойчы сутыкаўся з гаспадарамі тых ці іншых, малых ці вялікіх, уладных пакояў. Памятаю, як аб аднаго з іх спатыкнулася вельмі важная справа. Вось, трос я паперамі, у законе гаворыцца тое і тое... Так, пагаджаўся ён, сціпла панурыўшы позірк, але нехта ж павінен «кіраваць працэсам»... І я зразумеў: калі нармальны чыноўнік абслугоўвае закон, носьбіт «пятай улады» «кіруе працэсам». Сёння — працэсам закручвання гаек. Калі спатрэбіцца — працэсам так званай «лібералізацыі»...

Я не ведаю, хто «кіраваў працэсам» у справе нашых вядомых праваабаронцаў, магчыма, сам Лукашэнка. А, магчыма, які-небудзь клерк з Мінюста, МУС ці КДБ — спачатку незаконна ўнёс іх прозвішчы ў спісы «невыязных», а потым па-вынаходніцку прапанаваў выйсце ў выглядзе «тэхнічнай памылкі.» І тут я не бачу розніцы паміж прэзідэнтам і апошнім клеркам.

Бо абодва яны — стваральнікі і нявольнікі хлуслівай Сістэмы, што завецца «пятай уладай».

Уладай, якая ў адсутнасці чатырох іншых застаецца адзінай.

Што насамрэч завецца дыктатурай, як ні круці...

*kamerton_41@mail.ru*



# Хто можа прывезці алімпійскія медалі



**Топ-10 кандыдатаў** на ўзнагароды.

**Алімпіяда-2012**

Пройдзе ад 27 ліпеня да 12 жніўня ў Лондане. Брытанская сталіца прымае такія спаборніцтвы ўжо ў трэці раз. Будуць разыграныя 302 камплекты ўзнагарод у 31 відзе спорту. Беларускай зборнай загадана заваяваць 25 узнагарод, хоць на папярэдніх Гульнях колькасць медалёў вагалася ў дыяпазоне 15-19.

## 10. Футбол

У наш рэйтынг хлопцы Георгія Кандрацьева трапляюць крыху авансам. Усё ж першы раз беларусы возьмуць удзел у такіх спаборніцтвах, таму ўвага будзе павышанай. У каманду можна было ўзяць трох старэйшых хлопцаў. Кандрацьеў узяў Драгуна, Брэсана і Карніленку, а вось Глеба — не.

**Калі глядзець:** 26 ліпеня, 21:45, Беларусь — Новая Зеландыя. 29 ліпеня, 16:50, Бразілія — Беларусь. 1 жніўня, 16:20, Беларусь — Егіпет.

## 9. Алім Селімаў

Лезгін-барацьбіт даўно жыве ў Беларусі. Ён двухразовы чэмпіён свету ў грэка-рымскім стылі. Некалькі разоў Алім станоўча выказваўся пра беларускую мову.

**Калі глядзець:** 6 жніўня на працягу дня.

## 8. Аляксандра Герасіменя

У плаванні будзе разыграна аж 34 камплекты ўзнагарод. Праўда, у большасці спаборніцтваў беларусы будуць звычайнымі статыстамі. Адзінае выключэнне — Герасіменя. Аляксандра — першая беларуская пераможца чэмпіяната свету.

**Калі глядзець:** Фінал на каронцы Герасімені «100 метраў вольным стылем» адбудзецца вечарам 2 жніўня.

## 7. Мастацкая гімнастыка

Тут у нашых спадзевы — як на індывідуальнае майстэрства Любові Чаркашынай і Меліціны Станюты, так і на зборную. Без медалёў у мастацкай гімнастыцы нашы не заставаліся ніколі.

**Калі глядзець:** Медалі ў гэтым найпрыгажэйшым відзе спорту будуць разыграныя ў апошнія дні — 11 і 12 жніўня.

## 6. Сяргей Мартынаў

44-гадовы стралок прывучыў нас да сваіх поспехаў. Ён бронзавы медаліст Алімпіяд у Сіднэі і Афінах. Магчыма, надышоў час для больш высокіх вяршынь.

**Калі глядзець:** 6 жніўня адбудуцца спаборніцтвы ў стральбе з малакалібернай вінтоўкі з трох пазіцый.



**Так будуць выглядаць залатыя медалі.**



Вікторыя Азаранка прыехала на Алімпіяду першай ракеткай свету.

## 5. Настасся Новікава

Цяжкая атлетка заўсёды была нашым відам праграмы. А вось сёлета на медаль можна разлічваць хіба ад Настассі Новікавай. Жодзінская атлетка падышла да спаборніцтваў у добрай форме. Хіба яшчэ Рыбакоў узгадае мінулыя часы. А вось Андрэй Арамнаў у апошні момант адмовіўся праз траўму. Пасля «золата» Пекіна Андрэй ніяк не можа выйсці з цёмнай паласы ў жыцці на светлую.

**Калі глядзець:** Новікаву 30 ліпеня. Пачатак а 17:30.

## 4. Кацярына Карстэн

Ураджэнцы крупскай вёскі Асечына споўнілася 40 гадоў. Яна без перабольшвання легенда айчыннага спорту. Першая ўладальніца залатога медаля незалежнай Беларусі, яшчэ ў Атланце (1996). Цяпер Карстэн не такая грозная, але медалёў ад яе ўсё адно чакаюць.

**Калі глядзець:** Фінал у адзіночцы жаночага акадэмічнага веславання адбудзецца 3 жніўня раніцай.

## 3. Браты Багдановічы

На мінулай Алімпіядзе мы мелі дзве залатыя ўзнагароды ў веславанні на байдарках і каноэ. Сёлета зноў чаканні звязаныя з братамі Багдановічамі — Аляксандрам і Андрэем. Хлопцы родам з мястэчка Ялізава (Асіповіцкі раён).

**Калі глядзець:** Каноэ-двойка, фінал, 9 жніўня, раніца.

## 2. Іван Ціхан і Надзея Астапчук

У лёгкай атлетыцы асноўныя надзеі на «цяжкія» віды праграмы — кіданні і штурханні. У жаночым ядры спадзяемся на Надзею Астапчук і Наталлю Міхневіч, у мужчынскім — на мужа апошняй Андрэя Міхневіча. У жаночым молаце краіну прадставіць — Аксана Мянькова, пераможца мінулай Алімпіяды. Таксама немагчыма не звяртаць увагу на Івана Ціхана ў кіданні молата ў мужчын.

**Калі глядзець:** 3 жніўня: мужчынскае штурханне ядра. 6 жніўня: жаночае штурханне ядра. 5 жніўня: мужчынскае кіданне молата. 10 жніўня: жаночае кіданне молата. Спаборніцтвы будуць пачынацца пасля 20:00.

**Вэнлак і Мандэвіль**

Талісманамі спаборніцтваў будуць дзве кроплі сталі — Вэнлак і Мандэвіль. Першы названы ў гонар горада Мач-Вэнлак, дзе адбываліся спаборніцтвы кшталту алімпійскіх. Другі — у гонар вёскі Сток-Мандэвіль, дзе прайшлі першыя на тэрыторы Велікабрытаніі Паралімпійскія гульні. У абодвух талісманаў па адным воку, яны носяць роварныя шлемы, і на іх намаляваныя лагатыпы Гульняў.

## 1. Вікторыя Азаранка і Максім Мірны

Заваяваць медаль у тэнісе будзе вельмі прэстыжна. А надзеі на гэта маюцца. Азаранка на сёння першая ракетка свету. Ды і яе пара з Максімам Мірным павінна пазмагацца за запаветныя ўзнагароды.

**Калі глядзець:** Штодня ад 27 ліпеня да 5 жніўня.

**Зміцер Панкавец**

## Расклад спаборніцтваў

Цырымонія адкрыцця — Кваліфікацыя спаборніцтваў — Фіналы спаборніцтваў — Цырымонія закрыцця

| Ліпень/ жнівень | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | Медалі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Цырымоніі | | | ● | | | | | | | | | | | | | | | | ● | |
| Акадэмічнае весланне | | | | | | | | 3 | 3 | 4 | 4 | | | | | | | | | 14 |
| Бадмінтон | | | | | | | | | | 1 | 2 | 2 | | | | | | | | 5 |
| Баскетбол | | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | 2 |
| Бокс | | | | | | | | | | | | | | | | 3 | | 5 | 5 | 13 |
| Барацьба | | | | | | | | | | | | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 | 3 | 2 | 18 |
| Веласпорт | | | | 1 | 1 | | | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | | | 2 | 1 | 1 | 18 |
| Воднае пола | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | | | 1 | 2 |
| Валейбол | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | | 1 | 1 | 4 |
| Гандбол | | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | 2 |
| Весланне на байдарках і каноэ | | | | | | | 1 | 1 | 2 | | | | | | 4 | | 4 | 4 | | 16 |
| Дзюдо | | | | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | | | | | | | | | | 14 |
| Конны спорт | | | | | | | 2 | | | | | | 1 | 1 | 2 | | | | | 6 |
| Лёгкая атлетыка | | | | | | | | | | 3 | 5 | 7 | 5 | 4 | 4 | 5 | 6 | 8 | 1 | 47 |
| Настольны тэніс | | | | | | | | 1 | 1 | | | | | 1 | 1 | | | | | 4 |
| Ветразевы спорт | | | | | | | | | | | | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | | 10 |
| Плаванне | | | | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | | | | | 1 | 1 | | | 34 |
| Скачкі ў ваду | | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | 1 | | 1 | | 1 | | 1 | | 8 |
| Скачкі на батуце | | | | | | | | | | 1 | 1 | | | | | | | | | 2 |
| Сінхроннае плаванне | | | | | | | | | | | | | | 1 | | | 1 | | | 2 |
| Сучаснае пяціборства | | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | 2 |
| Спартыўная гімнастыка | | | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | | | 3 | 3 | 4 | | | | | | 14 |
| Стральба | | | | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 1 | 2 | | | | | | | 15 |
| Стральба з лука | | | | 1 | 1 | | | | 1 | 1 | | | | | | | | | | 4 |
| Тэніс | | | | | | | | | | | 2 | 3 | | | | | | | | 5 |
| Трыятлон | | | | | | | | | | | 1 | | | 1 | | | | | | 2 |
| Таэквандо | | | | | | | | | | | | | | | 2 | 2 | 2 | 2 | | 8 |
| Цяжкая атлетыка | | | | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | | | 15 |
| Фехтаванне | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | | | | | 10 |
| Футбол | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | | 1 | | 2 |
| Хакей на траве | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | | 2 |
| Мастацкая гімнастыка | | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | 2 |
| Медалі | | | | 12 | 14 | 12 | 15 | 20 | 18 | 22 | 24 | 24 | 18 | 21 | 17 | 22 | 16 | 32 | 15 | 302 |

# На «Дажынках» у Маладзечне кралі мільярдамі

**Камітэт дзяржкантролю апублікаваў вынікі маштабнай праверкі.**

На падрыхтоўку і правядзенне фестывалю «Дажынкі-2011» у Маладзечне было выдаткавана 822,8 мільярда рублёў. За апошнія пяць гадоў гэта адно з самых дарагіх святаў ураджаю. Як выявіла праверка КДК, з гэтай сумы 7,6 мільярда было выкарыстана неэфектыўна, а асваенне яшчэ 6,6 мільярдаў прызналі незаконным або нямэтавым.

Па выніках праверкі да адказнасці прыцягнулі 131 службовую асобу. Былі распачатыя дзве крымінальныя справы за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі і за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Гэтыя лічбы сталі вядомыя на калегіі КДК Мінскай вобласці.

Што яшчэ выявіла праверка? Дзяржкантроль так і не адшукаў агульнага кашторысу працаў па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю. Як вынік, праз нясвоечасовае фінансаванне многія аб'екты не адрамантавалі нават праз паўгода пасля правядзення «Дажынак». А да некаторых раней запланаваных работ рукі не дайшлі ўвогуле.

Найбольш у выкраданні грошай адзначыліся службовыя асобы ААТ «Будтрэст №3 Ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі». Прыдуманая імі схема аплаты арэнды жылля для супрацоўнікаў трэста прынесла ім незаконных прыбыткі ў памеры каля паўмільярда рублёў — з выдзеленых на аплату жылля 494,2 мільёна рублёў да ўладальнікаў кватэр дайшло толькі 39,6.

Ахвярамі нядбайнасці будаўнікоў сталі жыхары 141 кватэры: у 28 дамах рамонт дахаў зацягнуўся на некалькі месяцаў. Увесь гэты час яны былі не абароненыя ад дажджоў. Тады чытач «НН» з Маладзечна апісаў, якім чынам адбываўся рамонт на вуліцы Вялікі Гасцінец. Ён даслаў некалькі дзясяткаў фота заваленых будаўнічым друзам двароў, затопленых падчас дажджу кватэр.

**Сямён Печанко**

**Колькі каштуюць «Дажынкі»**

| Год | Горад | Кошт, млн. |
|---|---|---|
| 2012 | Горкі | $113 |
| 2011 | Маладзечна | $140-180 |
| 2010 | Ліда | $170 |
| 2009 | Кобрын | $120 |
| 2008 | Орша | $150 |




# У Пінску завялі крымінальную справу на цёзку Аляксандра Лукашэнкі

**Яго падазраюць ва злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.**

На начальніка аддзела культуры Пінскага гарвыканкама Аляксандра Лукашэнку заведзена крымінальная справа, паведамляе МУС.

Яго падазраюць у злоўжыванні ўладай. Следства мяркуе, што ў лютым цёзка кіраўніка дзяржавы мусіў адвезці ў Польшчу мясцовы ансамбль песні і танца «Палескія зоры». Але замест музыкаў адвёз за мяжу... групу сваякоў і знаёмых.

Шкоду ад учынку чыноўніка ацанілі ў 16 мільёнаў рублёў. Раней ён узначальваў пінскі Дом культуры.

**СП**



ПІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ АДДЗЕЛ КУЛЬТУРЫ

Р/рахунак 3604000000125, ф-л 121
АСБ «Беларусбанк» г. Пінск
225710, г. Пінск, Брэсцкай вобл.,
вул. Дняпроўскай флатыліі, 21.
тэл., 35-38-72, 35-38-52, 35-50-01

ПИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ ОТДЕЛ КУЛЬТУРЫ

Р/счет 3604000000125, ф-л 121
АСБ «Беларусбанк» г. Пинск
225710, г. Пинск, Брестской обл.,
ул. Днепровской флотилии, 21.
тел., 35-38-72, 35-38-52, 35-50-01

30.06.2011 № 01-17/133
На № ______ от ______

Заместителю главного редактора
Учреждения "Рэдакцыя часопіса "АРХЭ-Пачатак"
Пашкевичу А.В.

О проведении презентации

Отдел культуры Пинского городского исполнительного комитета считает проведение презентации Вашего издания в центральной библиотеке централизованной библиотечной системы отдела культуры горисполкома нецелесообразным, в связи с тем, что пропагандирование тезисов некоторых публикаций данного номера не вызовут положительной реакции у местного населения.

Начальник отдела культуры А.Н.Лукашенко

**У архіве «НН» ёсць вось такі дакумент. Ён добра характарызуе асобу пінскага чыноўніка.**

**Чытач б'е трывогу**

# Відавочцы: у нядзелю ў гарадской электрычцы была бойка

**Калі ў цягніку няма міліцыі, хуліганам мора па калена.**

Як расказала «НН» пасажырка гарадской электрычкі, увечары ў нядзелю 22 ліпеня ў гарадской электрычцы, якая ехала з Заслаўя ў Мінск, адбылася бойка. Гэта быў апошні рэйс, які адпраўляецца ў сталіцу ў 20.23. На прыпынку «Мінскае мора» зайшла нецвярозая кампанія. У нейкі момант пачалася бойка. «Такі мат стаяў, што немагчыма трываць было. Дзяўчаткі, што квіткі прадаюць, селі спалоханыя і нічога не рабілі», — расказвае жанчына. У Мінску на вакзале цягнік чакалі міліцэйскія патрулі. «Не ведаю, ці затрымалі каго, бо электрычка была поўная. Хіба па камерах відэаназірання кагосьці знойдуць». Пасажырка дзівіцца, чаму цягнік не суправаджае ахова, як пра тое рэгулярна нагадвае запіс.

У Мінскім упраўленні ўнутраных спраў на транспарце карэспандэнту «НН» паведамілі, што не маюць інфармацыі пра бойку ў гарадской электрычцы.

**СП**

**Добрая навіна**

**Дзяўчынка знайшлася!**

Кацярына Равяка паехала катацца ў Гомельскую вобласць. 12-гадовая дзяўчынка, якая знікла 15 ліпеня ў пасёлку Лясны (Бараўляны), адшукалася праз тры дні на чыгуначным вакзале ў Жлобіне. Яна пасварылася з бацькамі. У Гомельскую вобласць яна прыехала на электрычцы.

**Разгільдзяйства**

**Згарэў трактар за $100 тысяч**

Трактарысты тушылі яго вадой з бутэлек. Трактар МТЗ-3022, які належыць СВК «Адраджэнне» (Ганцавіцкі раён), загарэўся пры кашэнні травы. Ён не быў укамплектаваны вогнетушыцелямі. Двое трактарыстаў паспрабавалі заліць агонь пітной вадой з пластыкавых пляшак. Энерганасычаная тэхніка, коштам у $100 тысяч, згарэла за некалькі хвілін.

**Паводле «Ганцавіцкага часу»**



# Аварыя каля Крыма: 43 беларусы пацярпелі

21 ліпеня каля 23.40 на 105-м км аўтадарогі Сімферопаль—Херсон аўтобус CETRA з беларусамі сутыкнуўся ўлабавую з мікрааўтобусам Ford Transit і перакуліўся. Пры гэтым ён сутыкнуўся таксама з іншым мікрааўтобусам і легкавіком.

У выніку ДТЗ пацярпелі кіроўцы абодвух «Фордаў» і пасажырка аднаго з іх, а таксама 28 пасажыраў аўтобуса, сярод якіх 25 грамадзян Беларусі і трое грамадзян Расіі. Сярод пацярпелых турыстаў — шасцёра дзяцей. Усяго ў «Сетры» знаходзіліся 46 пасажыраў і два кіроўцы. На шчасце, ніхто не загінуў.

Па стане на панядзелак, 23 ліпеня, ва Украіне ў шпіталях заставаліся 12 беларусаў.

**СП**

**Аварыя ў Турцыі**

Таксама ў мінулую сераду ў Турцыі каля горада Аланья ў аварыю трапілі тры турысткі з Беларусі. Яны ўдзельнічалі ў экскурсіі–сафары на джыпах. Адна з іх у шпіталі.



# Багдан Ступка хацеў памерці ў адзін дзень з мамай

**І не дажыў** усяго адной ночы.

Ён зняўся ў 102 фільмах — і гэта толькі мастацкія. Як сам жартаваў, сыграў усіх цароў, правадыроў і прэзідэнтаў. Нават генсака Брэжнева, закаханага ў англійскую каралеву, — у фантасмагорыі «Заяц над безданню».

Знакавыя гістарычныя асобы паўстаюць у памяці ў Ступкавым абліччы. Фільм Юрыя Ільенкі «Легенда пра гетмана Мазепу» выклікаў істэрыю ў расійскіх СМІ. Ступка зрабіў з бунтоўнага гетмана казака-чараўніка, героя ранняга Гогаля, які нават з магілы хапае за горла цара Пятра.

Ступкаў Багдан Хмяльніцкі («Агнём і мячом» паводле Генрыка Сянкевіча) высякае маланкі шабляй і выклікае сімпатыю — хоць фільм здымаў паляк Ежы Гофман.

А вось свайго Тараса Бульбу Ступка, як прызнаваўся, не разумеў: пачаць вайну, забіць сына — акцёр не ўяўляў, як можна так.

Ступка памёр у кіеўскай клініцы Феафанія, дзе паўгода ляжаў з анкалагічным дыягназам. Упершыню рак даў пра сябе знаць узімку 2010. Акцёр лячыўся ў Германіі і, здавалася б, паспяхова. Аднак пасля вяртання ён зноў улёг у працу, і хвароба вярнулася.

Ступка, не прыходзячы ў свядомасць, сканаў у ноч на нядзелю, 22 ліпеня, не дажыўшы да 71-га дня нараджэння.

Вядомасць яму прынесла роля Арэста Званара ў фільме «Белая птушка з чорным знакам» (1971). Свайго героя-бандэраўца акцёр зрабіў настолькі прыцягальным, што адразу займеў усесаюзную славу.

Увайшоўшы ў найвышэйшыя колы савецкай культурнай эліты, Ступка заставаўся публічна ўкраінскамоўным. Мо таму, што першая палова яго жыцця прайшла ў старажытным Львове. Тут Ступка быў слесарам, фатографам у астранамічнай лабараторыі, канферансье ў джаз-ансамблі. Тут 17 гадоў адпрацаваў у драматычным тэатры. Пасля было запрашэнне ў кіеўскі Тэатр імя Івана Франко, які Ступка, стаўшы дырэктарам, зрабіў першым нумарам ва Украіне.

Франкоўскі тэатр ён не пакінуў нават у 1999, калі стаў міністрам культуры ва ўрадзе Віктара Ючшанкі. (Першым загадам Ступка зрабіў бясплатным уваход у тэатр для пенсіянераў і салдатаў.)

**З жонкай Ларысай Багдан пражыў паўстагоддзя. Яны выгадавалі сына, а пасля — унука, якому замянілі бацькоў пасля разводу сына »**



Ступку, патрыярху ўкраінскай культуры, прапаноўвалі балатавацца і ў прэзідэнты краіны. Аднак ён адмахваўся: стары, няма ахвоты лезці на ўзгорак, дзе стаіць адміністрацыя.

Ступка — адзін з нешматлікіх у акцёрскім цэху, чыя біяграфія не ведала разводаў, другіх і трэціх сем'яў. З жонкай Ларысай, што была балярынай у Львоўскай Оперы, Багдан пражыў амаль паўстагоддзя. Яны разам выгадавалі сына Астапа, а пасля — унука Дзмітрыя, якому фактычна замянілі бацькоў пасля разводу сына. І сын, і ўнук сталі акцёрамі.

Нават стаўшы народным артыстам, Ступка ва ўсім слухаўся маці. Ён марыў памерці з ёю ў адзін дзень (Ганны Рыгораўны не стала 23 ліпеня 2003). І адпаго дня акцёру не хапіла. Пахавалі Багдана Ступку на кіеўскім Байковым цвінтары, дзе ляжыць украінская культурная эліта.

**Сяргей Мікулевіч**

**Праўда жыцця**

# Перабіраючы бульбу, або Чужыя побач

Замалёўка **пра людзей і людскасць**. Піша **Віктар Шукеловіч**.

Яны сядзелі на жалезных вёдрах, прыкрытых шэрымі зрэбнымі мяхамі. Гаманілі, пасміхаліся, разпораз бліскаючы зубным золатам. На вясковым падворку, каля бульбянога капца, нібы ля пупа зямлі ці старажытнага сармацкага кургана.

У кожнай было па два кошыкі. У адзін з картаплянай гары ішла насенка, а ў другі кідалася гнілаватая, вялая і сухая бульба на корм свінням — зварыцца, растаўчэцца з мукой.

Перабіралі бульбу на саджэнне. Тры сталыя кабеты з тварамі, выпаленымі згрызотамі, у хустках, якія мелі калісьці — пры царах Гарошку, калі людзей было трошку — яркія бліскучыя ўзоры. Высокі хударлявы стары цягаў па два кашы з недалёкага крытага шыферам склепа і падсыпаў капец.

Кашы цягала і яшчэ адно замурзанае стварэнне, якое, здаецца, зусім не мела шыі. Гэта быў вясковы хлопчык-даўн Франэль, якога бацькі «пазычылі» за бутэльку суседзям у помач.

А што Франэлю? Лепей тут з людзьмі. Тут хоць пад'есці ільга, бо дома мышы з голаду дохнуць. У бацькоў Франэля горлы смаляныя — цягнуць гарэлку, як цэмент ваду.

Жанчыны працавалі хутка — цях-цях! — і мужыкі не мелі часу перадыхнуць. Дый Франэль поўныя кашы не цягаў.

— Няхай дапамагае як можа, — думалі яго старыя таварышы. — Бедная душа, паўгалодная. Сям'ю корміць, бо за яго інвалідскія бацькі, як не прап'юць, хоць нейкіх крупаў купяць.

Працавалі доўга. Кошыкі сыходзілі за кошыкамі, аж пакуль Франэль не сеў, засопшыся, на зямлі.

— Давай, матка, ідзі па абед, работнік замучыўся, — сказаў дзед-гаспадар адной з кабет. Тая, крэкчучы, устала, адклеіўшы ад азадка вядро, і патупала ў хату, каб прынесці схаваную ў падушкі каструлю з клёцкамі. Жанчыны паўставалі, каб выпрастацца. Гаспадар прынёс да клёцак бутэльку самагонкі і чаркі з мутнага шкла.

Пуховыя падушкі ўратавалі цеплыню клёцак. Прыгравала веснавое сонейка, і файна было грызці бульбяныя злепкі з мясам, запіваць жытняй самагонкай і ўглядацца ў чыстае неба.

Налілі і Франэлю паўчарачкі «на апетыт». Адна з кабетаў зацягнула: «Раз бы разок з разочкам, чарка пайшла кружочкам...»

Усе б выпілі яшчэ, але ў бутэльцы свяцілася дно. Хударлявы гаспадар збіраўся ісці па схаваную ў стог чарговую бутэльку, як яго спалохаў Франэль. Хлапчанё стрымгалоў кінулася пад склеп, пакорпалася там і прынесла вялікую бутэльку таннага віна.

— Во які малайчына, які разумнік, — зацвіркаталі задаволеныя жанкі.

— Пэўна, нехта згубіў, падпіўшы, пры гасцінцы, — засакатала тоўставатая жонка. — А гэты знайшоў.

І гэтая бутэлька апаражнілася. Франэлю налілі поўную чарку, і той выпіў, не пакрывіўшыся.

— Па бацьку, Лёньку, пайшоўшы, — сказаў, пасміхаючыся, стары.

Зноў узяліся за працу. Франэль ад алкаголю набраў спрыту. Прынёсшы два кашы, рабіў яшчэ лётам ганаровае кола па падворку, разганяючы ў бакі курэй. Раптам малады певень, баронячы свой гонар, пачаў атакаваць п'янаватага Франэля.

Хлапчук спыніўся, страх перакасіў яго твар, а раз'юшаны певень скакаў усё вышэй і вышэй, стараючыся дзюбнуць мальца ў твар, дзеручы шпорамі вопратку Франэля.

Адкуль ні ўзяўся малы куцахвосты Жук, сабачка на кароткіх ножках. Адчуўшы атмасферу палявання і страх загнанага стварэння, прыймчаў да Франэля і пачаў штосілы на яго брахаць.

— Кусі яго, кусі-і-і! — аж заходзілася адна з жанок у істэрычным смеху. У іншай выступілі ад рогату слёзы, якія яна змахвала канцом хусткі. А гаспадыня ажно ўзялася за жывот. Стары злёгку пасміхаўся, зацягваючыся горкім дымам самакруткі.

— До, до ўжо, хопіць. Пайшлі адсюль, — шпурнуў ён у бок пеўня і сабакі грудку жвіру. Жук умомант адвярнуўся да гаспадара, яго паляўнічы настрой знік. Певень таксама адступіў.

— Дзе гэна шчанё?! — пачуўся раптам сіпаты голас. З'явіўся новы госць — ухарнелы і сухі Лёнька, бацька Франэля. Твар яго свяціўся лютасцю.

— Украў у мяне бутэльку віна харошага! — роў ён у бок Франэля. — Я Багданісе гарод заараў, яна віна дала, дык я ў кратавінні ад жонкі закапаў, а гэты ёлуп падгледзеў.

— Можа, не ён? — прамармытаў гаспадар. Жанчыны маўчалі, не зводзячы спалоханых вачэй з Лёнькі.

— Як не ён!? — дрыжэў ад гневу голас Лёнькі. — Хадзі сюды, каму сказаў! — трос ён цёмным ад бруду кулаком. Франэль, трасучыся, пачаў падыходзіць.

— Я цябе навучу красці! — Лёнька схапіў жалезны ланцуг, што вісеў на сцяне паветкі, і з усёй моцы сцебануў Франэля па спіне. Той паваліўся на зямлю і завішчэў, як малы і нямоглы звярок.

Выў ад болю, але з невыказным даверам хатняга сабачкі глядзеў на бацьку, пакорна аддаючыся позіркам пад яго ўладу.

— До, до, Лёнька, перастань, не дурэй, — загукалі зляканыя перабіральніцы бульбы.

Лёнька кінуў ланцуг, сплюнуў жоўтай слінай і сышоў шырокім і пэўным крокам. За ім, сыкаючы з болю, здрыптаў з падворка і Франэль.

— Ато была авантура, — зноў запаліў стары. — А скажы ты што таму Лёньку... Ён жа можа і хату спаліць... Мазгі ўсе прапіўшы, — апраўдваўся дзед. — А Франэль ачухаецца, яму ж не прывыкаць. Ды і не баліць яму, пэўна, як нармальнаму чалавеку... Ён жа і не ведае, і не разбіраецца, што значыць той боль. З галавой жа не ўсё ў парадку...

Жанчыны толькі заківалі галовамі.

**Дзе варта быць**

## Прэзэнтацыя «Вялікага Княства Літоўскага» — 6 жніўня

Багата ілюстраваны том Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча «Вялікае Княства Літоўскае» будзе прэзентаваны 6 жніўня ў Бібліятэцы Акадэміі навук (Сурганава, 15). Пачатак а 16.30.

Шыкоўна выдадзенае «Вялікае Княства» — сапраўдны даведнік пра часы ВКЛ. «Дзень для прэзентацыі быў абраны невыпадкова, — адзначае Уладзімір Арлоў. — Якраз 6 жніўня Францыск Скарына выдаў першую беларускую друкаваную кнігу».

**СМ**

# Дзеля Айчыны

Уладзімір Някляеў піша на **дзень нараджэння Зьмітра Дашкевіча**.

Чачэнскі паэт, з якім я вучыўся некалі ў Літаратурным інстытуце, спытаў, калі мы сядзелі ў шашлычнай, якая пры штурме Грознага на дзве трацiны згарэла — на шыльдзе толькі задымленыя літары ШАШЛ засталіся:

— А ў вас ёсць людзі, гатовыя ахвяраваць сабой дзеля свабоды Айчыны?

На Каўказе не саромеюцца патэтыкі.

Я не знайшоў, што адказаць... Быў верасень 1996. Каля паўгода таму ў Гэхі-Чу забілі Джахара Дудаева, у Хасаўюрце толькі што падпісалі дамову пра сканчэнне чачэнскай вайны (як аказалася, першай, у якой за свабоду Айчыны загінулі дзясяткі тысяч чачэнцаў), Лукашэнка ў Мінску рыхтаваў рэферэндум па змене Канстытуцыі, а Змітру Дашкевічу было ўсяго 15 гадоў — і я пра яго нічога не ведаў. Калі б ведаў, я б знайшоў, што адказаць майму чачэнскаму сябру.

Мы ходзім да варажбітак, цыганкі нам варожаць па руках, астролагі — па зорках, але зусім не лініі на далонях і не зоркі ў нябёсах вызначаюць наш лёс. Яго вызначаюць войны, мірныя пагадненні, выбары, рэферэндумы...

Рэферэндум 1996 прывёў Змітра Дашкевіча ў 2006 на Плошчу. Пасля Плошчы — у турму. Як аказалася, у першую. Да другой Плошчы дайсці яму не далі, бо ўжо відавочны быў адказ на пытанне, зададзенае некалі мне маім чачэнскім сябрам у горадзе Грозным. Таму — другая турма, а сёння ўжо рэальная і турма трэцяя.




**На Змітра Дашкевіча завялі новую крымінальную справу. За злоснае непадпарадкаванне адміністрацыі калоніі.**

У парывах сваіх рамантычны — Зміцер уражвае цвёрдасцю. Мужнасцю.

У снежні 2010, за тыдзень да Плошчы, ён сказаў мне і Міколу Статкевічу ў кавярні каля чыгуначнага вакзала, што гатовы на ўсё. Сказаў па-беларуску проста, без патэтыкі.

Я паглядзеў тады на яго, падумаў: «Адкуль гэта ў ім?» — і знайшоў адказ праз год, сустрэўшыся з ягоным бацькам. У бацькі той жа рамантызм, які закінуў яго, журналіста Вячаслава Дашкевіча, аж на Магадан, і тая ж цвёрдасць. Мужнасць. Нічога не бярэцца зніадкуль, нішто не бывае выпадковым.

Мінулай вясной, перабедаваўшы і перахварэўшы сэрцам лёс сына, памерла ў 54 гады маці Змітра. Цяпер цяжкая хвароба ў бацькі...

Калі Бог пасылае такія выпрабаванні дзеля гартавання волі і сілы, дык яно, бадай, занадта.

Але не наракаць жа на Бога. Не праз Яго ж ні ў чым не вінаватага юнака кінулі ў вязніцу, не праз Яго не далі пахаваць маці, не праз Яго не дазваляюць пабрацца шлюбам з каханай, жыць сям'ёй, гадаваць дзяцей... І ўсё праз што? Толькі праз тое, што юнак гэты з тых беларусаў, якія гатовыя ахвяраваць сабой дзеля Айчыны.

20 ліпеня ў Змітра дзень нараджэння — 31 год. Тры з іх — у вязніцы. З паўгода ў карцарах.

Годнасць, з якой вытрымлівае ён выпрабаванні, не можа не выклікаць павагі. Калі не баяцца, як не баяцца яе на Каўказе, патэтыкі, дык ён адзін з нашых нацыянальных герояў. І на беларускай зямлі ганарыцца ім можа ягоны бацька, а на беларускіх нябёсах — ягоная маці.

**Уладзімір Някляеў**

Паэт, палітык. Лідар кампаніі «Гавары праўду»

## Усевалад Сцебурака
# Розніца

*Змітру Дашкевічу да 31-га дня нараджэння і ўсім палітзняволеным, якіх у нас няма*

Калі нават засыпаць мядзведзямі
усю Беларусь — да дахаў,
ці лягчэй стане тым,
хто адседзелі?
хто адседзеўся —
унікнуць жахаў?

Калі ўсе сацыяльныя сеткі
закіпяць ў супраціўным настроі,
там шпацыр застанецца гэткі ж —
з канваірам у казённым строі.

Калі будзе натоўп гуляцца
у рэвалюцыю пляскатую —
той, хто там,
не пабачыць розніцы
паміж блазнамі і катамі...

Я палю. Я маўчу. Я думаю.
што такога ўва мне не стае?
Аднагодкі мы з ім —
у тры дні розніцы,
але ён свабаднейшы ў турме...

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і а сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. **Рваныя раны ворыва**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Пяты анёл затрубіў, і ўгледзеў я зорку,
Што ўпала з неба на зямлю,
І дадзены ёй ключ ад калодзежа бездані.
Адкрыццё, 9:1*

Куплінскі склад аўтазапчастак, на якім мне даводзіцца працаваць за трыста метраў ад каменды, — найбольшы ў Пружанскім раёне. У былым танкавым ангары на 400 кв.м — жалеза да трактароў «Беларус», МАЗаў, савецкіх грузавікоў, сельгастэхнікі; падшыпнікі, фільтры, рамяні ды шлангі розных калібраў, эмалі, гаручазмазачныя матэрыялы, разнастайныя інструменты — ажно да аптэчак і электрапастухоў. Калгасы раёна, калісьці перайменаваныя ў ААТ, затавараюцца менавіта тут.

Склад — гэта звыш чатырох тысяч найменняў, дзе памылка ў нумары акумулятара ці трактарнай шыны бу-дзе каштаваць табе месячнага заробку; гэта змораныя, бегма, купцы, інжынеры і механікі (якія прызнаюцца, што маюць хіба адзін выходны на год — 1 студзеня); гэта некалькі дзясяткаў сваіх рабочых, чорных ад мазуты і пылу, якім трэба выдаваць снадзіва і рыштунак, а таксама процьма ластавак, што напаўняюць былы ангар шчабятаннем, лепяць гнёзды ў скрыжаваннях бетону, віртуозна вылоўліваюць мух ля вокнаў і дзвярэй і выводзяць маленькіх, якія шэрагам, не раўнуючы ноты, ся-дзяць на лініях дроту ды пачаргова, быццам у мульціках, вучацца ціўкаць.

Месячны абарот тут ідзе на мільярды, вага жалеза — на тоны, і спаленыя нервовыя клеткі — напэўна, адзінае, што ўліку не паддаецца.

Калгасу, які прыязджае, трэба паказаць, што ёсць, запісаць, аддаць накладныя і выдаць, а часцяком і дапамагчы пагрузіць.

Жалезная плынь.

Дзякуй Богу, кладаўшчык — баптыст Слава: за парадак можна не хвалявацца. Брат Слава прайшоў і турмы, і бамжаванне, пакаяўся, прыняў Хрыста — і цяпер адзін з кіраўнікоў тутэйшай памеснай царквы. Дапамагае галоўны інжынер Максімавіч — сціплы ды ўсмешлівы беларус-тэхнар з вёскі Забэйды-Суміцкага, знаўца ўсяго неверагоднага жалеззя, вечна на тэлефоне, на запраўцы або ў майстэрнях...

Але сам, маючы з тэхнікі хіба што ровар, часам знемагаеш ад атупення.

А Госпад жа папярэджваў... У СІЗА КДБ тры месяцы прапускаў міма вушэй бясконцыя аповеды галоўнага інжынера МТЗ пра карданы, рэлюшкі і гідрацыліндры — і вось трапляеш акурат туды, куды едуць па запчасткі для 850 «Беларусаў»!

Большасць усяго металу, гумы ды «хіміі» са складу сыходзіць у малако: менавіта «малочка» дае 9/10 экспарту Пружанскага раёна. Трактары, сеялкі ды касілкі працуюць на кармах і збожжы для фермаў; шлангі, вёдры ды вілы ідуць наўпрост у кароўнікі; грузавікі развозяць малако па гіпермаркетах.

Прыязджаюць тыя, каго гараджане мімаходзь называюць «калхознікамі» — няшчасныя, дабрадушныя і простыя сімпацягі: то стрыманыя, то жартуны, то змрочнасасяроджаныя, каржакаватыя дзядзькі або асаністыя маладзёны з густымі брывамі ды галасамі, кожны з непаўторнай паляшуцкай ці ліцвінскай гаворкай — адразу ўяўляюцца дрэвы, выкарчаваныя дзесьці ў Пушчы!..

Размаўляеш — і разумееш: калгасы, што засталіся на Пружаншчыне, або выцягваюць за кошт колішніх пракаповіцкіх уліванняў Нацбанка — або «выязджаюць» на некалькіх трывушчых беларусах-працаголіках, прыроджаных земляробах, хто яшчэ не спіўся; імі затыкаюць усе дзіры. У стратнай, друзлай, яшчэ саўковай сістэме апошні запас — унутраная, валовая тутэйшая працавітасць.

Невынішчальныя, вечныя беларусы, знявечаныя калектывізацыяй ды атэізмам, яны ўсё захоўваюць у кутках вачэй, у вуснах, у цяжкім маўчанні сваю беларускую таямніцу — як удаецца выжыць, карміць горад ды трымаць для дзяцей ды ўнукаў дзесь глыбока-глыбока гарчычнае зерне надзеі.

А гаспадарыць на беларускай зямлі па-ранейшаму сталінскі калгас.

З размоваў з інжынерамі высвятляецца, што львіная доля трактароў у гаспадарках стаіць; што ў нідэрландскіх комплексаў, закупленых на фермы за вялізныя грошы, зімой замярзаюць паілкі (не разлічылі — іншы клімат); людзі саромеюцца нават казаць, колькі зарабляюць; крадзеж, п'янства, безадказнасць — норма; гісторыі пра калецтвы і смерці (таму тэхніка на полі раструшчыла косткі, той упаў у жатку, таго забіла токам) нескончоныя... і ўсе, усе згаджаюцца, што ўсім усё абыякава.

Вёска нават тут, у Заходняй Беларусі, як жывы арганізм — гніе.

З зямлі рвуць тое, што аддасць. Гвалтам. Бо трэба вал. Бо (гарачы ком. прывет) — загад.

Пступае каманда: 20-га сеяць! І хоць аграном ведае, што зямля яшчэ не адтаяла, што палова плошчаў — яшчэ балота, і сеяць па загадзе — значыць гробіць тэхніку і насенне, дзецца няма куды: на палях ужо кантралёры, і гора тым, хто не вывеў трактар на пашу. Клянуць начальства і асабіста вярхоўнага галоўнакамандуючага — і едуць у Куплін закупаць цапы, трактарныя карданы ды генератары: ведаюць, што дурных паломак ды перасеваў будзе да горла.

Уборка? Зноў: усе на бязлітасную барацьбу з ураджаем.

Або «семінары» (раённыя ці абласныя накачкі з выездам на палі ўзорных гаспадарак). За два-тры дні да «семінара» замест 10-12 калгасаў штодня прыязджае па 15-20 і размятаюць фарбу, шчоткі, рыдлёўкі, вілы ды лямпачкі — каб, раптам што, было чыста і мігцела.

На куплінскім складзе рваны рытм калгаснага жыцця, бы хвароба сэрца, толькі аддаецца знадрыўным, з перабоямі, грукатам жалеза.

Краіна Беларусь — адна з найбагацейшых зямлёю ў свеце: плошча ворыва на душу насельніцтва — амаль 0,7 га.

Але пакуль бязбожжа — Беларусь без збожжа. Ані побытавай сялянскай веры, ані прыватнай уласнасці — а інакш у зямным жыцці ніяк.

У ворыва па-ранейшаму няма гаспадара.

У людзей па-ранейшаму няма волі.

Па-ранейшаму дае свае ўсходы кроў, пралітая падчас калектывізацыі: раскулачаныя, сасланыя, забітыя, замораныя голадам; разрабаваныя сем'і, закінутыя вёскі... Колькі яшчэ пяцігодак зямля будзе вывяргаць, выціскаць з сябе, выкідаць разам з неўраджаямі боль і выпладні таго гвалту?

Даваць беларусам горкі хлеб з прысмакам крыві і поту?

Зразумець бы гэта мілым, здзіўленым і спакутаваным інжынерам...

А нам, гарадскім едакам, — убачыць бы, як часам дажджамі плача над гэтай знявечанай ірванымі ранамі зямлёю Бог...

*Куплін*

**Месячны абарот тут ідзе на мільярды, вага жалеза — на тоны »**

# Налібоцкія келіхі для Еўропы



Налібоцкі келіх, падараваны каралю Аўгусту III.

Пра найлепшы беларускі бізнэс-праект XVIII стагоддзя піша **Зміцер Гурневіч**.

Гэтыя келіхі, кілішкі, філіжанкі мелі за гонар ставіць на стол арыстакраты. Майстры з радзівілаўскай мануфактуры ў XVIII стагоддзі кінулі выклік славутым багемскім і дрэздэнскім брэндам і стварылі непаўторную школу налібоцкага шкла.

У 1706 княгіня Ганна Радзівіл з мужам Каралем вандравалі па Эўропе. Бэрлін, Дрэздэн, Прага... Там Ганна і пабачыла славутыя шкляныя мануфактуры. Патсдамскае і багемскае шкло на сталах у магнатаў было знакам заможнасці і прэстыжу. Ганна загарэлася ідэяй: стварыць уласную мануфактуру, шкло ў якой не саступала б найлепшым эўрапейскім узорам.

### Лебяжодай

Пятнаццаць год пайшло на ажыцьцяўленне задумы. Месца для мануфактуры абралі невыпадкова. Налібоцкая пушча гарантавала пастаўкі драўніны, попел з якой быў абавязковым складнікам шкла. Блізка пушчы бег Нёман, па якім можна было аж з Караляўца транспартаваць сыравіну, якой было не дакупіцца ў Літве. Налібокі стаялі каля галоўных дарог, што было зручна для купцоў.

Будаўніцтва мануфактуры пачалося ўлетку 1720. Першы будынак паставілі непадалёк ад радзівілаўскага фальварка, каля маляўнічага возера і касцёла, уздоўж ракі Лебяжода. Усё згодна з тэхналогіяй: паблізу рэчкі і возера, на ўзгорку. Сэрцам мануфактуры была гута. Вакол стаялі іншыя будынкі: кузня, цясьлярня, слясарня, склады... Рэчка рухала млын, які тоўк каменне для дарагіх гатункаў шкла.

Удоўжкі гута мела 30 метраў, ушыркі — 12, увышкі — 4 метры. У першай палове XVIII ст. налібоцкая мануфактура была найбуйнейшым фабрычным будынкам у Рэчы Паспалітай.



Бутля, 1781 год.

### Ландграф, Фрэмель, Хайнц

Першым чынам Ганна запрасіла ў Налібокі замежных майстроў. З Баварыі прыехаў Вольфганг Ландграф са слаўнай дынастыі гутнікаў Чэхіі і Ніжняй Аўстрыі. Вольфаганг быў зяцем найлепшага чэшскага тэхнолага Міхала Мюлера з Міхаловай Гуты. І ведаў сякія-такія сакрэты старога. Сям'я Ландграфаў засталася ў Беларусі: удзячныя Радзівілы падарылі ім вёску Пруды. Іх нашчадкі жылі там аж да Першай сусьветнай вайны.

За мастацкую майстэрню адказваў француз Канстанцін Францішак Фрэмэль. На крышталі спецыялізаваўся Ёган Георг Хайнц, чые продкі пачыналі ў XVII ст. на славутай Патсдамскай мануфактуры.

За час існавання гуты ў Налібоках працавала дваццаць замежных майстроў. Грошай на іх Ганна не шкадавала.

Майстры, паводле дамовы, былі абавязаныя вучыць сваёй справе налібоцкіх хлопцаў. Хайнц набыў варштаты для малых гутнікаў-мастакоў аж у Дрэздэне.

### Ад 4-й раніцы да 19-й вечара

У жніўні 1722 гута адчынілася. Працоўны дзень доўжыўся ад 4-й раніцы да 19-й вечара з перапынкам на абед ад 11 да 13. Да суботы гутнікі рыхтавалі печы, матэрыялы і шкляную масу. Галоўнымі складнікамі шкла былі пясок, паташ, вапна, адбельвальнікі і фарбавальнікі. Пясок сушылі ў печы і прасейвалі праз густое рэшата. Паташ атрымлівалі з попелу лістоўных дрэваў. Рабочыя, што адказвалі за яго якасць, называліся «курашы». Як можна здагадацца, назва паходзіла ад слова «курыць». І сёння ў Налібоках жывуць людзі з прозьвішчам Кураш.

У суботу ўвечары ў спецыяльныя місы ў печы засыпалася шкляная маса. Там яна плавілася да вечара нядзелі. За працэсам сачылі два гутнікі. У нядзелю перапопленае шкло кідалі ў ваду. Пасля яго драбнілі, сушылі, засыпалі ў місы і зноў ставілі ў печ. Ля напаленай печы працавала восем чалавек. Пасля 10-й гадзіны раніцы ў панядзелак з гатовага шкла пачыналі рабіць куфлі, кілішкі, келіхі, графіны. А каб атрымаць найлепшае шкло, яго трымалі ў печы і да аўторка. Пасля гутнікі пачыналі рыхтаваць сыравіну да наступнай суботы.

Дарэчы, печ у гуце мела ажно восем узроўняў, што было на той час тэхнічнай навінкай у Рэчы Паспалітай, дзе на гутах печы мелі па 4-6 узроўняў.

### Фірмовая чаша-звон

У гуце пастаянна працавалі чатыры замежных майстры, пяцёра налібоцкіх гутнікаў і каля дзесяці мясцовых вучняў. Кожны майстар спецыялізаваўся на сваім гатунку шкла. Вырабы былі розных колераў: цёмна-сіняга, блакітнага, зялёнага, мятнага, жоўтага, чорнага, малочнага, рубінавага. Рэцэпты шкла ўдасканальваліся. Мянялася і мода. Налібоцкія майстры распрацавалі свой фірмовы тып келіха — чашазвон, у аснове якой была дэкарацыя з трох бурбалак.

У гуце былі варштаты для апрацоўкі каштоўных камянёў і аздаблення прадукцыі. У вырабах аздобы дапамагалі замежныя кнігі. Галоўным дапаможнікам быў выдадзены ў Галандыі ў 1638 падручнік для гутнікаў.

Кемлівыя Радзівілы не цураліся і сумнеўных формаў маркетынгу. У гуту перыядычна прывозіліся навінкі з Венецыі, Саксоніі і Вены. Майстры вывучалі вырабы і часцяком капіявалі.

### Беларускія дынастыі гутнікаў

За першыя 20 гадоў Ландграфы выхавалі пакаленне мясцовых майстроў. Самымі вядомымі былі Дубіцкія. Ян Дубіцкі зрабіў шасьцілітровы келіх для караля Аўгуста. Справу бацькі працягнулі сыны Ігнат і Ян II Дубіцкія. Радзівілы запрасілі Дубіцкіх у мануфактуру ва Урэччы (цяпер Любанскі раён) — вучыць мясцовых гутнікаў, як некалі Хайнц і Ландграф вучылі налібачанаў.

Гутніцкай справе навучыўся памочнік Ландграфа Ян Мішук, а таксама Юзаф Каржэнька і Пятро Пока. Шліфавальній кіравалі Ян Тарпановіч і Тамаш Дайлідовіч. Келіхі і куфлі расьпісвалі Рыгор Клімовіч, Рыгор Аўчук, Лукаш Валодзька. Некаторыя з іх былі вольнымі людзьмі з дробнай шляхты, атрымлівалі заробак. Замежныя майстры мелі тады па 350 залатовак у год, гутнікі — па 277, а звычайныя вучні — па 100.

Вядомыя і прозьвішчы іншых гутнікаў: Гаўрыла Мазун, Лаўрын Рыбак, Міхась Лобач, Юзаф Фарботка, Юлюк Клімовіч, Васіль Ясеў. Але капейчыну за нялёгкую працу мелі не ўсе. Большасць адпрацоўвала паншчыну.

Бывала, майстры ўцякалі з гуты. І пачынаўся дэтэктыў. Ладзіліся пагоні, пошук збеглага майстра цягнуўся гадамі. Здаралася, іх знаходзілі на іншых мануфактурах. Тады Радзівілы судзіліся з новымі працадаўцамі: гутнікі, мастакі, гравіроўшчыкі, былі ў Літве рэдкасцю, іх адукацыя дорага абыходзілася. Радзівілы справядліва баяліся, што ўцекачы прададуць налібоцкія рэцэпты канкурэнтам.

### 13 тысяч злотых у год

Хоць канкурэнтаў гута не мела. Яе шкло было самым папулярным сярод ліцьвінскай шляхты. У XVIII ст. магнаты будавалі мануфактуры дзеля шыку. Прыбытак яны прыносілі рэдка. Налібоцкая гута была выключэннем.

Шкло масава купляла сярэдняя шляхта. Самыя сціплыя вырабы каштавалі 1 злоты 15 грошай. Аздобленыя шклянкі і келіхі прадавалі па 2 злотыя. Эксклюзіўнае шкло каштавала не менш за 5 злотых.

«Залатым часам» гуты былі першыя 40 гадоў існавання. Напрыклад, у 1747 у Налібоках было выраблена 1800 кілішкаў, 1200 шклянак, 700 бутэлечак. На гуце не паспявалі выконваць замовы. У найлепшыя гады яна штогод прыносіла 13 тысяч злотых.

Ужо ў 1720-я ў Літве з'явілася сетка крамаў радзівілаўскага шкла: у Міры, Нясвіжы, Свіры, Карэлічах, Слуцку... Крамы былі і ў такіх буйных гарадах, як Вільня і Гродна. Княгіня Ганна забараніла, пад пагрозай буйнага штрафу, прадаваць у радзівілаўскіх уладаннях шкло іншай вытворчасці. Захаваліся звесткі пра габрэйскага купца Ківі, які з налібоцкім шклом выпраўляўся «на Русь». Налібоцкае шкло набывалі аптэкі, тэатры куплялі шкляныя аліўныя лямпы, а Віленская акадэмія замаўляла лабараторнае абсталяванне для доследаў па хіміі і фізіцы.

Вытворчасць пашыралася. Дадатковыя шліфавальні адчыніліся ў Рудні і Янкавічах. Там апрацоўвалі золата, срэбра, кварц, агат, аметыст, дыяменты, рубіны. Імі ўпрыгожвалі каменныя люлькі, шаблі, булавы, каменныя келіхі, пячаткі, тронкі нажоў, надмагіллі, кітайскія парцалянавыя сэрвізы і нават статуі.



Залатая пячатка, аздобленая агатам, з партрэтамі Аўгуста III і каралевы Марыі Юзэфы. Янкавічы.

Вырабы янкавіцкіх ювеліраў Яна Яськевіча, Паўла Дайлідовіча, Якуба Яцэвіча і іх вучняў Конрада Гардынкі і Грышкі Касцюкевіча можна сёньня пабачыць у Нацыянальным музеі ў Варшаве і ў казначэйстве Вавельскага замка ў Кракаве.

Янкавіцкую мануфактуру прыводзіў у рух вадзяны млын, зроблены французскім майстрам. Канструкцыя была ўнікальнай. Радзівілы, каб пазбегнуць эканамічнага шпіянажу, забаранілі людзям з-па-за майстэрні нават праходзіць каля млына, а падарожным загадвалі аб'язджаць Янкавічы пушчанскімі дарогамі.

Асаблівым гонарам Радзівілаў былі фірмовыя крамы ў партовых гарадах Гданьску і Караляўцы.



Шабля, аздобленая золатам і срэбрам у Янкавічах.

Праз краму ў Гданьску, якой валодаў купец Эмануіл Эсінг, радзівілаўскае шкло трапляла ў Пецярбург, Лондан і Стакгольм. Яго размальявалі, хоць пабач знаходзіліся фірмовыя крамы багемскага шкла.

### У музеях суседзяў

У 1760-я грымнуў крызіс, выкліканы бескаралеўем у Рэчы Паспалітай. Мануфактуры зачыняліся. Налібоцкая гута трымалася, але ранейшых прыбыткаў з яе Радзівілы ўжо не мелі. Чарговым ударам стаў падзел дзяржавы. Занёманскія землі апынуліся на расійскім баку, а гэта выклікала збоі ў пастаўках сыравіны. Гуту даводзілася нават гасіць на некалькі месяцаў. Але, нягледзячы на крызісы, падзелы і войны, мануфактура праіснавала аж да 1862. Роўна 140 гадоў. Зачынілася яна, паводле адных крыніц, пасля пажару, які дазваннязнішчыў будынкі, а паводле іншых — у выніку скасавання прыгоннага права.

Шукаць налібоцкае шкло ў музеях Беларусі — дарэмная справа. Як і слуцкія паясы, крыж Еўфрасінні Полацкай, карціны нашых выбітных мастакоў — налібоцкія келіхі, куфлі, кілішкі, філіжанкі, бутэлькі, флаконы, місы могуць быць дзе заўгодна, але толькі не ў Беларусі.

Пабачыць творы рук сваіх прадзедаў сёньняшнія Дубіцкія, Мішукі, Каржэнькі, Далідовічы, Касцюкевічы і Клімовічы, якіх багата ў ваколіцах Налібакоў, могуць у музеях Кіева, Львова, Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Прагі, Берліна і ў прыватных калекцыянераў у ЗША, Канадзе, Швецыі, Японіі.

# Мсціслаўскі рыцарскі фэст

Ужо ў 5-ы раз у Мсціславе адбудзецца свята сярэднявечнай культуры. Сёлета ў горадзе чакаюць каля 350 рыцараў з 50 рыцарскіх клубаў і клубаў гістарычнай рэканструкцыі з розных гарадоў Беларусі і замежжа.
«Рыцарскі фэст. Мсціслаў-2012» пройдзе **28 і 29 ліпеня**.

Рыцарскія турніры і спаборніцтвы, старажытныя танцы на адкрытых пляцоўках, выступы гуртоў сярэднявечнай музыкі. Праграма сёлетняга фестывалю чакаецца больш насычанай і цікавай, чым у мінулыя гады. Тут і турнір мечнікаў, і турнір лучнікаў, і правядзенне розных майстар-класаў.
Акрамя дзённых мерапрыемстваў, на фэсце чакаецца і начная праграма з фаершоу і святочным феерверкам. На святе госці не павінны застацца галоднымі. Іх чакае старажытная кухня і «Манастырскі скляпок».



TIO.BY

## ФУТБОЛ

### «Гомель» — «Рэнова»

**26 ліпеня** адбудуцца матчы ў адказ другога кваліфікацыйнага раўнду Лігі Еўропы. «Гомель» прыме дома македонскую «Рэнову». На Балканах нашы былі мацнейшыя за суперніка з лікам 2:0. Білеты — 30-40 тысяч рублёў. Таксама ў гэты дзень у гасцях згуляюць яшчэ дзве беларускія каманды. У Белградзе (Сербія) сустрэнуцца «Црвена Звезда» і наваполацкі «Нафтан». У аўстрыйскім Рыдзе аднайменная каманда прыме салігорскі «Шахцёр».

## КАНЦЭРТЫ

### «Just Dance»

**25, 26, 31 ліпеня а 23-й у Westworld Club (Старажоўская, 15а)** — «Just Dance».

### Канцэрт класічнай музыкі

**26 ліпеня а 18-й у Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5)** — канцэрт класічнай музыкі. Прагучаць творы К. Сен-Санса, М. Арнольда, М. Андрэ-Блоха, К. Курпінскага, І. Аленчыка.

### Live Improvisation

**26 ліпеня а 22-й у Dozari (пр. Незалежнасці, 58)** — «Live Improvisation».

### Mojito Disco

**27, 28, 29, 30 ліпеня а 22-й у Mojito (пр.Незалежнасці, 58)** — «Mojito Disco».

### Назад у СССР

**27 ліпеня а 21-й у «Гудвіне» (пр. Незалежнасці, 19)** — рэтравечарынка «Назад у СССР». Госць — гурт «Lifestyle».

### Cross B Band

**28 ліпеня а 19-й у «Графіці» (Калініла,16)** — «Cross B Band».

### Акустычны вечар

**29 ліпеня ў Cuba Libre (Крапоткіна, 93А)** — «Акустычны вечар».



### Талака ў Леніне

**28 ліпеня** у межах кампаніі «Будзьма беларусамі!» адбудзецца чарговы валанцёрскі дэсант у старадаўняе **мястэчка Ленін (Жыткавіцкі раён)**. Ахвотнікаў прыкласці свае намаганні ў справе захавання культурнай спадчыны на Беларусі чакае працяг прац на ўнікальных габрэйскіх могілках, прэзентацыя эскізнага праекта рэстаўрацыі драўлянай капліцы другой паловы XIX ст., абмеры якой былі выкананыя падчас мінулай талакі, цікавая камунікацыя ў цудоўнай кампаніі.
Гэта глухое Палессе каля чыстага Белага возера. Рэдкая магчымасць там пабыць.
Па пытаннях удзелу ў мерапрыемстве звяртацца па т.: +375 29 111-73-32 ці па адрасе antonastapovicz1@gmail.com.

## ВЫСТАВЫ

### Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі

**Да 4 жніўня ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі». Нацыянальная і гістарычная тэматыка падказвае сюжэты для многіх кампазіцый.

### Мой дружа, Янка

**Да 26 ліпеня ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (Акадэмічная, 5)** працуе выстава «Мой дружа, Янка». Матэрыялы дазволяць наведнікам дакрануцца да гісторыі сяброўства класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа. На выставе прадстаўлены першыя зборнікі вершаў паэтаў — «Жалейка» і «Песні жальбы», выданні нумароў газеты «Наша Ніва» з творамі беларускіх песняроў, вершы-прысвячэнні Якуба Коласа Янку Купалу, рукапісы ўспамінаў і артыкулаў Якуба Коласа, прысвечаных Янку Купалу.

### Сад камянёў

**Да 26 жніўня ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей І з'езду РСДРП»** працуе выстава мінералаў «Сад камянёў». На выставе прадстаўлены ўзоры мінералаў (групы кварца, рудныя, самародныя элементы, карбанаты), горныя пароды, каменныя вырабы, выкапнёвыя арганізмы, высакародныя камяні для апрацоўкі і вырабаў, археалагічныя знаходкі.

### Сяргей Каткоў і вучні

**Да 30 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Сяргей Каткоў і вучні», прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння мастака. На выставе прадстаўлены каля 80 твораў жывапісу і графікі ў жанрах пейзажа і нацюрморта з фондаў музея, з калекцыі дачкі мастака Святланы Катковай і ўласныя творы вучняў Сяргея Каткова.

### Гараджанкі

**Да 15 жніўня ў бібліятэцы імя Цёткі (Талбухіна, 12а)** працуе выстава «Гараджанкі: вобразы мілыя роднага краю», прымеркаваная да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. На выставе прадстаўленыя работы ў тэхніцы ручной вышыўкі.

### Партатыўныя лялечныя тэатры

**З 13 ліпеня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры** працуе выстава партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

## Юлія Савічава

Расійская эстрадная спявачка, выпускніца тэлепраекта «Фабрыка Зорак-2», удзельніца конкурсу «Еўрабачанне-2004», актрыса Юлія Савічава 28 ліпеня выступіць у мінскім Madison Royal Club. Пачатак а 23:00. Даведкі па тэлефоне (029) 619-00-40.



## ТЭАТРЫ

### 25 ліпеня

**Купалаўскі** — «Ноч на Калядны»

### 26 ліпеня

**Сучасны мастацкі** — «Пара Па Парах»

### 28 ліпеня

**Сучасны мастацкі** — «Турандот»

### 29 ліпеня

**Тэатр-студыя кінаактора** — «Хто смяецца апошнім»

## КІНО

### Чырвоныя агні Робэрта Дэ Ніра

**Чырвоныя агні** (Red Lights)
Іспанія — ЗША, 2012, каляровы, 113 хв.
**Рэжысёр:** Радрыга Картэс
**Ролі выконваюць:** Сігурні Уівер, Кіліян Мэрфі, Роберт Дэ Ніра, Элізабет Олсэн, Джоэлі Рычардсан, Тобі Джонс
**Жанр:** Трылер
**Адзнака:** 6 (з 10)

Навукоўцы Маргарэт Мэцісан і Том Баклі паспяхова выкрываюць шарлатанаў. Але на сцэну пасля трыццацігадовага перапынку нечакана вяртаецца экстрасэнс Саймас Сільвер. Чамусьці Маргарэт катэгарычна забараняе сваймy асістэнту займацца Сільверам, але Том забарону парушае…
Фільм Радрыга Картэса — сухаватая навуковая драма, што маскіруецца пад містычны трылер ды спрачаецца з «Сакрэтнымі матэрыяламі». Навукоўцы, узброеныя толькі брытвай Окама, змагаюцца з махлярамі, забабонамі і глупствам. На адным баку — скепсіс сумленных даследчыкаў, на другім — фіглярскія шоу, тэлевізійная істэрыя і людскія страхі. Дэ Ніра — сляпы экстрасэнс з цёмным мінулым і злавесна-каралеўскім шоу, Сігурні Уівер — перакананая даследчыца, што змагаецца з уласнымі сумневамі, Кіліян Мэрфі — фізік, які трапляе ў загадкавыя гісторыі.
Нягледзячы на сур'ёзнасць, фільм палохае. Ён то патурае легкавернасці, то б'е па галовах. Адных гэта ўразіць, іншых — абурыць.

**Андрэй Расінскі**



# Колькі каштуе ультрагукавое дасьледаваньне

У дзяржаўных цэнтрах цэны **ў разы ніжэйшыя.**

Ультрагукавое дасьледаваньне — адзін з самых папулярных спосабаў дыягностыкі ў медыцыне. З дапамогай УГД можна выявіць захворваньні органаў брушной поласьці і малога таза, сэрца, суставаў і галавы, а таксама прасачыць за разьвіцьцём плёну ў цяжарных жанчын.

Прапануем агляд цэнаў на УГД у шэрагу сталічных клінік.

Самыя танныя паслугі ў дзяржаўных цэнтрах. Так, УГД сэрца ў Менскім кансультацыйна-дыягнастычным цэнтры каштуе 70 000 рублёў. У медцэнтрах «Кравіра», «Лекар», «Ева» і «ЛАДЭ» гэтая паслуга каштуе 193, 178, 160 і 155 тысяч адпаведна.

Дасьледаваньне органаў брушной поласьці ў МКДЦ каштуе каля 79 000 рублёў, у «Кравіры» і «Еве» па 140 000, а вось у «ЛАДЭ» і «Лекары» паслуга каштуе ўтрая даражэй — 239 і 221 тысяча рублёў.

Дасьледаваньне органаў малога таза (гінэкалёгія) самае таннае ў МКДЦ і «ЛАДЭ» — 65 000 і 93 000 рублёў. Самае дарагое з нашага сьпісу — у «Кравіры» — 130 000 рублёў.

УГД сасудаў шыі і галаўнога мозгу каштуе ад 130 тысяч (МКДЦ) да 200 («Лекар»).

**Як правільна падрыхтавацца да УГД**

Ад гэтага залежаць дакладнасьць і аб'ектыўнасьць вынікаў дасьледаваньня. Перад УГД органаў брушной поласьці і ультрагукавым дуплексным сканаваньнем сасудаў нырак неабходна на працягу 6-7 гадзін нічога не есьці і не піць, не ўжываць жавальную гумку, не паліць цыгарэты. Пры схільнасьці да метэарызму і падвышанай масе цела за 3 дні да дасьледаваньня нельга піць газаваныя напоі, малако, есьці чорны хлеб, бабовыя, капусту. Пры гэтым трэба ўжываць актываваны вугаль і фэрмэнтныя прэпараты.

УГД мачавога пузыра, органаў мужчынскага і жаночага малога таза праводзіцца пры напоўненым мачавым пузыры. Агляд малога таза ў жанчын трансвагінальным (унутраным) датчыкам праводзіцца пасьля апаражненьня мачавога пузыра.

Не патрабуецца папярэдняя падрыхтоўка перад УГД сасудаў (артэрый або венаў) канечнасьцяў, магістральных сасудаў, шчытападобнай залозы, малочных залозаў, суставаў, мяккіх тканак, нырак, органаў машонкі, сьлінных залоз, вочных яблыкаў і сэрца.

**Сямён Печанко**



**Варта памятаць**, што дасьледаваньні карыстаюцца розным папулярнасьцю, адпаведна, чэргі на некаторыя УГД даўжэйшыя. На працягласьць чаргі можа ўплываць і наяўнасьць адпаведных спэцыялістаў у цэнтрах. У любым выпадку, актуальную інфармацыю пра цэны і чэргі можна даведацца ў адміністратараў цэнтраў.

**Ультрагукавое дасьледаваньне** — неінвазіўны, або бяскроўны, спосаб дасьледаваньня арганізма. Гэта значыць, што пры абсьледаваньні на скуру пацыента не аказваецца ўздзеяньне хірургічнымі інструмэнтамі. Асноўным інструмэнтам з'яўляюцца ультрагукавыя хвалі.

## Новыя ўказальнікі ў мэтро: па-беларуску і па-ангельску

**Пераабсталяваньне пачалося** з плошчы Незалежнасьці.

На станцыі мэтро «Плошча Незалежнасьці» павесілі ўказальнікі з дубляваньнем на ангельскай мове. Прычым англамоўныя таблічкі вісяць як на самой станцыі (са схемай сталічнага мэтрапалітэна), так і на выхадах да плошчы Незалежнасьці і да чыгуначнага вакзала.

Акрамя таго, усе станцыі мэтро, дзейныя цяпер і тыя, што неўзабаве адчыняцца, атрымалі парадкавыя нумары. Прыпыначныя пункты па Маскоўскай лініі будуць мець нумары выгляду 1ХХ, а па Аўтазаводскай — 2ХХ.

**Onliner.by**




Турызм

## У Менску пусьцяць двухпавярховы экскурсійны аўтобус

У яго рэканструкцыю **ўклалі 50 тысяч эўра.**

Двухузроўневы грамадзкі транспарт у Беларусі не навіна. У 1990-я ў Менску і Гомелі працавала з дзясятак такіх аўтобусаў. Аднак праз дарагавізну рамонту праз некаторы час на хаду застаўся толькі адзін жалезны дзядок 1980 года выпуску. Ён пераехаў з Гомеля ў Мазыр, дзе яго некаторы час выкарыстоўвалі ў якасьці перасоўнай сталоўкі для кіроўцаў іншых аўтобусаў. Апошнім часам машына прастойвала, і яе зьбіраліся здаць на мэталалом.

Аднак інфармацыйна-турыстычны цэнтар «Менск» і турфірма «Дром Тур» задумалі зрабіць з яе экскурсавода для гараджан і гасьцей сталіцы. Рэстаўрацыя пачалася ў 2009 і заканчваецца толькі цяпер. Каштавала яна каля 50 тысяч эўра. «Мэну» замянілі матор, абнавілі салён і корпус. Адзінай тэхнічнай дапрацоўкай стала




лінгвасыстэма, якая расказвае на сямі мовах пра славутыя мясьціны сталіцы. Пасажыр насоўвае навушнікі і сам выбірае мову. Прадстаўленыя беларуская, расейская, ангельская, гішпанская, францускае, італьянская і нямецкая мовы.

Маршрут аўтагіда пачынаецца ад чыгуначнага вакзала, далей едзе па праспэкце Незалежнасьці да Нацыянальнай бібліятэкі, потым па вуліцах Харужай, Багдановіча, праспэкце Пераможцаў да «Мінск-Арэны», там разварочваецца, едзе да ГУМа, адтуль — на вакзал. Экскурсія зойме прыкладна 1 гадзіну 30 хвілін.

Дарослым ваяж абыдзецца ў 80 тысяч рублёў, школьнікам — у 40.

Аўтобус будзе пафарбаваны ў чырвоны колер. Раз у месяц ён будзе бясплатна вазіць дзяцей з дзіцячых дамоў з усёй Беларусі.

**Vminsk.by**

Перамены

## Аналагавае тэлебачаньне пачнуць адключаць

Гарады пачнуць адключаць ад аналагавага тэлебачаньня 1 сьнежня 2013. Першымі стануць Асіповічы. Праз два месяцы без аналагавага ТБ застануцца жыхары Жлобіна і Бабруйска, у лістападзе — жыхары Касьцюковіч. У 2014 прыйдзе чарга абласных цэнтраў: Магілёва (1 лютага), Гомеля (1 красавіка), Віцебска (15 мая), Берасьця (1 чэрвеня) і Горадні (10 верасьня). Нарэшце, у чэрвені 2015 адключаць аналагавыя перадатчыкі ў Калодзішчах, размешчаных пад Менскам.

Замест яго канчаткова прыйдзе лічбавае тэлебачаньне. Пакуль што ў «лічбе» існуе магчымасьць бясплатна праглядаць сем каналаў: «Беларусь-1», АНТ, «Беларусь-2», СТВ, «РТР-Беларусь», «НТВ-Беларусь» і «Свет». Для іх прыёму патрэбная спэцыяльная антэна, альбо тэлепрыстаўка, альбо тэлевізар, які падтрымлівае фармат MPEG-4 AVC / H.264.

**ЯМ**

Сьцісла

**Стогадовы рубеж пераадолелі 574 беларусы**

Сярод рэгіёнаў краіны лідарам па колькасьці доўгажыхароў з'яўляецца Гарадзеншчына: тут налічваецца 124 чалавекі ва ўзросьце болей за 100 гадоў. На другой пазыцыі ў гэтым рэйтынгу Берасьцейшчына (95), на трэцім Меншчына (86).

**Ажаніцца стала прасьцей**

Набылі сілу зьмены ў Кодэкс аб шлюбе і сям'і. Мінімальны тэрмін, які павінен прайсьці з моманту падачы заявы да рэгістрацыі шлюбу, паменшаны з 15 да трох дзён. Пры наяўнасьці асаблівых акалічнасьцяў шлюб можна зарэгістраваць і ў дзень падачы заявы. Упершыню замацаваная магчымасьць ажыцьцяўляць рэгістрацыю шлюбу ў любым органе ЗАГС ці за яго межамі.

**«Заторы» ад Google**

Цяпер на мапах Google можна паглядзець хуткасьць трафіку на вуліцах Менска ў бягучую хвіліну, а таксама сярэднестатыстычную інфармацыю для канкрэтнага дня і часу. Напрыклад, ці «стаіць» праспэкт Машэрава ў сераду а 19.00. Такія самыя сэрвісы прадстаўляюць таксама кампаніі «Яндэкс» і «Навітэл».

**ЯМ**




Перад Адміністрацыяй прэзідэнта ў чаканні Дзмітрыя Мядзведзева. Болей пра візіт — старонка 3.




Хостал Jazz правёў мерапрыемства «Жывы беларускі стрыт-арт», у рамках якога графіцісты размалявалі плот і кухню хостала.




Red Hot Chili Peppers, выступаючы на радзіме Пуціна, падтрымалі Pussy Riot, групу, што зладзіла ў храме Хрыста Збаўцы панк-малебен «Багародзіца, Пуціна прагані!». Дзяўчатам якраз у пятніцу працягнулі арышт на паўгода.



Станцыю метро «Плошча Перамогі» ўпрыгожылі «алімпійскай» рэкламай.

## Анекдоты

* * *

Прэм'ер Расіі Мядзведзеў так і не зразумеў, чаму ў Мінску яго ніхто не фатаграфаваў. Усе фатографы адварочваліся і пераходзілі на іншы бок вуліцы.

* * *

Мядзведзеў, рукі прэч ад цырка! Лепш «Беларуськалій»!

* * *

На фэйс-кантролі звычайна стаяць людзі, якія самі яго ніколі не пройдуць.

* * *

— У нас у гасцях заслужаны морж Беларусі. Раскажыце, як вы ўпершыню апынуліся ў палонцы?

— Гэтак жа, як і ўсе: вырашыў скараціць шлях.

* * *

Страўс-клаўстрафоб больш за ўсё ў жыцці баіцца спалохацца.

* * *

– Кручуся, як дура ў коле!

– Вавёрка.

– Не, у вавёркі хоць футра ёсць, а я дура.

* * *

– А вось памятаю, у нас у дзіцячым садку таксама хлопец адзін быў. Усіх біў. Апроч мяне. Я моцны быў, заўсёды даваў адпор. За гэта мяне і выгналі з садка.

– ???

– Сказалі, што вартаўнік не павінен з дзецьмі біцца.

* * *

Ведаю цудоўны жарт пра пошту, але ён не да ўсіх даходзіць.

## «НН» сто гадоў з вамі

Мой родны кут! Як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы.
Не раз, утомлены дарогай —
Жыццём вясны маей убогай —
К табе я ў думках залятаю
І там душой адпачываю.

*Якуб Колас, Мінскі астрог, 22.6 — 3.7.1911.*

**«НН». №28. 1912.**

**Прэзідыум рады ФПБ разглядае пытанне** пра звальненне галоўнага рэдактара газеты «Беларускі час» Аляксандра Старыкевіча. Прычына — разыходжанне ў палітычных поглядах з новым кіраўніцтвам прафсаюзаў. На першай старонцы «Беларускага часу» ад 19 ліпеня вялікі фотаздымак А.Лукашэнкі на ровары з надпісам: «Дзякуй шчасліваму Аляксандру Рыгоравічу за наша дарагое жыццё!»

**«НН». №28. 2002.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 24.07.2012.
Замова № 2817.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 12028